5 чэрвеня 2015 | № 22 (439)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Князь вечнай Беларусі**

стар. 14

ISSN 2218-2144

3 **ЗНОЎКУ Ў ШКОЛУ**

У гэтым годзе «першы раз у першы клас» пойдуць не толькі дзеці, але і некаторыя дарослыя. Асабліва тыя, хто ўжо даўно забыўся альбо не ведаў, што «прафсаюзы — школа камунізму»

5 **КАЛІ Б ЯНЫ АТРЫМАЛІ ГРАМАДЗЯНСТВА...**



Ніколі не верыла ў расійскую прапаганду пра тое, што рускіх у Латвіі дыскрымінуюць. Найперш таму, што не лічу патрабаванне ведання мовы тытульнай нацыі дыскрымінацыяй

13 **ВЕНГЕРСКІ ТУПІК**

У сеціве адбыўся зліў інфармацыі, які тычыцца амерыкана-венгерскіх адносін. Згодна з ім, Вашынгтон і Будапешт моцна пасварыліся




15 **БАРЫС САВІНКАЎ. КАНЕЦ РУСКАГА ТЭРАРЫСТА**

Усе ведаюць, хто такі Барыс Віктаравіч Савінкаў. А дзякуючы кінафільму «Трэст» ведаюць і пра аперацыю чэкістаў, праз якую ў 1924 годзе заманілі Савінкава ў СССР. Аднак мала хто ведае, што пераходзіў ён мяжу пад Заслаўем

# Валюта і палітыка

## З 1 чэрвеня краіна перайшла на новы прынцып валютнага курсаўтварэння



Сяргей ПУЛЬША

Раней усё было проста. Пакупнікі і прадаўцы валюты падавалі свае заяўкі на гандаль Беларускай валютна-фондавай біржы. У залежнасці ад попыту і прапановы валюты Нацбанк усталёўваў курс рубля да валютаў. Калі попыт на валюту перавышаў прапанову, то курс рос. Калі прапанова перавышала попыт, то курс зніжаўся. І па ўсталяваным Нацбанкам курсе праводзіліся ўсе здзелкі паміж прадаўцамі і пакупнікамі валюты.

Зараз схема стала больш рынкавай, але больш складанай. З 1 чэрвеня банкі падаюць на біржу заяўкі, у якіх паказваюць колькасць валюты і курс, па якім яны хочуць яе прадаць ці купіць. Гэтыя прапановы трапляюць у асобную катэгорыю, у якой ідзе параўнанне. Калі заяўкі пакупніка і прадаўца супадаюць, то адбываецца здзелка. Калі не, — зразумела, не адбываецца.

Такім чынам, купля-продаж валюты адбываецца па розных курсах у залежнасці ад магчымасцяў прадаўца і пакупніка. Гэтыя здзелкі ідуць, у асноўным, паміж банкамі. Прадпрыемствы на біржы з'яўляюцца толькі тады, калі ім трэба прадаць абавязковыя 30% валюты. Калі ж прадпрыемству патрэбна купіць валюту, ці продаж валюты не падпадае пад гэтыя 30%, то — калі ласка, усё па «дамаўляльнай» схеме.

То бок, першая прыступка курсаўтварэння — на біржы. Другая прыступка — гэта гандаль паміж банкамі і прадпрыемствамі, але адбываецца ён не на біржы, а ў пазабіржавых аперацыях.

Трэцяя прыступка: з гэтых дзвюх лічбаў — біржавой і «дамаўляльнай» — Нацбанк выводзіць сярэдні курс рубля да валюты. Зразумела, такі рэжым «двайнога аўкцыёна» дазваляе галоўнаму фінансаваму рэгулятару краіны вызначыцца з афіцыйным курсам недзе пасля абеду, каля 13 гадзінаў.

Што гэта значыць для насельніцтва? Для шараговага грамадзяніна гэта азначае, у нейкім сэнсе, «плаваючы» курс у абменніках. Бо менавіта ад курсу Нацбанка залежыць, па якім кошце банкі будуць прымаць ці здаваць валюту ў абменных пунктах. Зранку курс можа быць папярэдняга дня, а пасля абеду — іншы, крыху большы ці меншы.

Катастрофы для грамадзянаў у гэтым «двайным курсаўтварэнні» эксперты не прагназуюць. Канешне, у першыя дні гандлю валютай па новай схеме курс долара ў абменніках вырас: калі раней долар куплялі па 14.250, то далей ён скочыў да 14.800. Аднак гэта можна спісаць на няўпэўненасць банкаў у новых умовах працы. Першыя ж таргі на біржы і першы ж новы курс Нацбанка паказаў, што долар ад «панічнай» прапановы ў 14.868 рублёў знізіўся да 14.810 рублёў. «Сярэдні» курс Нацбанка склаў 14.815 рублёў за долар. Калі ўсё пойдзе, як трэба, долар вернецца на свае старыя пазіцыі.

З новаўвядзення краіна атрымлівае даволі шмат. «Больш гнуткае курсаўтварэнне на рынкавых прынцыпах» было традыцыйнай прапановай Міжнароднага валютнага фонду для Беларусі. Апроч гэтага, улады пагадзіліся на прыватызацыю некаторых банкаў. Прынамсі, дасягнутая дамоўленасць пра прыватызацыю «Белінвестбанка» з удзелам Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця. І хоць гэты працэс расцягнуты па часе аж да 2020 года, першы намеснік старшыні Нацбанка Тарас Надольны ўжо выказаўся накошт таго, што пасля продажу «Белінвестбанка» могуць быць прыватызаваныя іншыя дзяржбанкі.




У выніку ўсіх гэтых крокаў той жа МВФ заявіў, што «палітычна» ён гатовы прадаставіць Беларусі новы крэдыт пад праграму рэформаў, дэталі якой трэба ўзгадніць бакам «у бліжэйшы час».

Як гаворыцца ў справаздачы МВФ, зробленай па выніках сакавіцкага візіту супрацоўнікаў фонду ў сінявокую, краіна «дамаглася значных вынікаў макраэканамічнай стабілізацыі, а праграма структурных рэформаў уключана ў праект стратэгіі сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2016–2020 гады». «Улады пацвярджаюць прыхільнасць правядзенню пераўтварэнняў і выказваюць надзею на хуткі пачатак перамоваў з МВФ па новай праграме», — зазначаецца ў дакуменце.

**МВФ гатовы прадаставіць крэдыт пад праграму рэформаў**

Канешне, МВФ патрабуе не толькі курсаўтварэння і прыватызацыі банкаў. Фонд настойвае на спыненні ільготнага крэдытавання дзяржпраграмаў, прыватызацыі малых і сярэдніх прадпрыемстваў, спыненні кантролю над цэнамі на «сацыяльна значныя» тавары, і гэтак далей. Але выконваць гэтыя патрабаванні ўлады мусяць толькі пасля атрымання грошай.

А іх, нягледзячы на ўсе дамоўленасці, можна і не выканаць. У гэтым сэнсе паказальны крэдыт МВФ 2009 года. Напрыклад, па ўмовах таго крэдыту ўрад абавязваўся не праводзіць падвышэнне зарплаты ў дзяржсектары, скарацiць кантроль над заробкамі і цэнамі, прыватызаваць банкі... Дарэчы, той жа «Белінвестбанк» павінен быў быць прыватызаваны яшчэ па ўмовах таго крэдыту, то бок шэсць год таму!

У выніку ўсё атрымалася «з дакладнасцю да наадварот». Істотнае падвышэнне заробкаў перад прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года прывяло нас да валютнага крызісу 2011-га, на які было спісана невыкананне ўмоваў МВФ.

Калі зараз МВФ нам зноў дасць «палітычны» крэдыт, сітуацыя можа паўтарыцца. Грошы пойдуць на прэзідэнцкую кампанію, Лукашэнка зноўку падзякуе МВФ за ягоную «элегантную перамогу», а план рэформаў так і застанецца не выкананы. Крок наперад у курсаўтварэнні можа стварыць умовы для двух крокаў назад у больш доўгатэрміновай перспектыве.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СВЕТЛАГОРСК. Інваліды-вазочнікі прапануюць круглы стол

**Інваліды-вазочнікі падпісаліся пад зваротам да Светлагорскага райвыканкаму з прапановай правесці круглы стол з чыноўнікамі, адказнымі за стварэнне безбар'ернага асяроддзя.**

Узвароце вазочнікі прывялі дзясяткі прыкладаў будынкаў, да якіх няма доступу чалавеку з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі: крамы, рынкі, паліклінікі, банкі, кафэ ды запраўкі. Самыя балючыя праблемы, на думку інвалідаў, — адсутнасць пандусаў і высокія бар'еры, якія робяць немагчымым вольнае перасоўванне па гораду. Таксама выклікае занепакоенасць сярод вазочнікаў немагчымасць карыстацца грамадскім транспартам, нават пры наяўнасці нізкай уваходнай прыступкі.

«Сустрэча з чыноўнікамі за круглым сталом патрэбна, перадусім, каб нас убачылі, бо сярод інвалідаў ёсць людзі, якія гадамі не маюць магчымасці выйсці са сваіх кватэр, — кажа адзін з падпісантаў звароту Аляксей Сушанцоў, — мы хочам з'явіцца на гэтым круглым стале, каб паказаць, што інваліды ў горадзе існуюць, каб нас пачулі, каб мы непасрэдна паразмаўлялі з чыноўнікамі, а не толькі праз лісты, афіцыйныя звароты. Вядома, што безбар'ернае асяроддзе, нібыта, на 50 працэнтаў выканана. Мы з гэтым не згодныя, хочам прапанаваць чыноўнікам сесці ў нашы вазочкі і пракаціцца па гораду, каб пагледзець, наколькі насамрэч горад стаў дасяжным. Мэта сустрэчы — паразмаўляць пра тое, як праблемы бар'ернасці трэба вырашаць».

### БАРАНАВІЧЫ. Касацыйная скарга па забароне першамайскага пікета

**Актывіст прафсаюзнай суполкі РЭП Рыгор Грык падаў касацыйную скаргу ў Брэсцкі абласны суд на рашэнне суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы, які забараніў правядзення пікету.**

Рыгор Грык не згодны з рашэннем суда першай інстанцыі і адзначае, што суд не прыняў да ўвагі той факт, што гарвыканкам сам парушыў закон, не ўказаўшы матывы забароны правядзення масавага мерапрыемства. У сваёй скарзе актывіст гаворыць, што толькі ў судзе даведаўся ад кіраўніка юраддзела гарвыканкама пра сапраўдныя прычыны забароны.

«Мне гарвыканкам забараніў пікет таму, што ў маёй заяве не было сказана, ці будуць ва ўдзельнікаў пікета аўтамабілі і піратэхнічныя сродкі. Але артыкул 6 Закона «Аб масавых мерапрыемствах» патрабуе, каб звесткі аб выкарыстанні піратэхнічных сродкаў і транспарту падаваліся ў заяве, калі арганізатары масавага мерапрыемства іх выкарыстоўваюць. А паколькі я хацеў правесці пікет без выкарыстання транспартных і піратэхнічных сродкаў, таму нічога пра гэта і не пісаў у сваёй заяве», — пракаментаваў Рыгор Грык.

Прафсаюзны актывіст просіць Брэсцкі абласны суд адмяніць рашэнне суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ад 21 мая 2015 года і вынесці новае рашэнне, не перадаючы справу на новы разгляд.

### БЯРОЗА. Што ўбачылі ў салідарнасці чыноўнікі?

**Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты зноў пазбаўлены магчымасці публічна агучыць сваю нязгоду наконт падатку на беспрацоўных і наяўнасці палітвязняў у краіне.**

Пікет з адпаведнымі мэтамі, які яны планавалі правесці 28 чэрвеня, не дазволены. Адмову падпісаў намеснік старшыні Бярозаўскага райвыканкама Яўген Тарасюк, распараджэнне аб забароне — старшыня райвыканкама Юрый Наркевіч.

Прычына адмовы: «у адным з пунктаў мэты пікету ўтрымліваецца распальванне нацыянальнай варожасці альбо розні».

Гэтая прычына ўжо стала штампам у бярозаўскіх чыноўнікаў. Па такой жа падставе быў забаронены пікет 25 сакавіка, і справа, ініцыяваная заяўнікамі, зараз знаходзіцца ў судзе Бярозаўскага раёна. Брэсцкі аблвыканкам, у сваю чаргу, падтрымаў тую забарону, але выказаў меркаванне, што пікет забаронены слушна, паколькі «грамадзяне М. Статкевіч, І. Аляневіч, М. Дзядок, Я. Васьковіч, А. Пракапенка і Ю. Рубцоў, якія ў вашай заяве аб правядзенні масавага мерапрыемства ад 9 сакавіка 2015 г. названы «палітвязнямі», асуджаны па розных артыкулах Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Сярод іх такія злачынствы, як арганізацыя масавых беспарадкаў, хуліганства, здзяйсненне групай асоб, наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці, абраза суддзі».

**Паводле spring96.org**

## Беларускія праваабаронцы распачынаюць гуманітарную місію ва Украіне

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» ініцыяваў правядзенне Праваабарончай гуманітарнай місіі ва Украіне. Асноўная яе мэта — дапамога ўкраінскім перасяленцам з зоны канфлікту.**

Каардынатар кампаніі «Праваабарончая гуманітарная місія ва Украіне» Зміцер Салаўёў кажа, што ідэя стварэння гэтай місіі напачатку нарадзілася ў Алеся Бяляцкага, паколькі ён, як віцэ-прэзідэнт FIDH, вядзе актыўную міжнародную дзейнасць. Пасля ўзнікла думка, што трэба рабіць стажыроўкі сяброў нашых філій на Украіне, а затым усё гэта трансфармавалася ў ідэю Праваабарончай гуманітарнай місіі з мэтай валанцёрскай дапамогі праваабарончым арганізацыям Украіны, якія займаюцца перасяленцамі, то бок людзьмі, якія пацярпелі ад узброенага канфлікту, што зараз ідзе на ўсходзе Украіны.

Пастаянна дзеючая місія працягласцю два месяцы распачнецца ў Харкаве. Кожныя два тыдні будуць мяняцца валанцёры. Яны будуць працаваць пры арганізацыі «Станцыя Харкаў», якая спецыялізуецца на аказанні дапамогі перасяленцам. Яны акумулююць інфармацыю аб тым, хто чым можа дапамагчы, раздаюць гуманітарную дапамогу, дапамагаюць інфармацыйна з працаўладкаваннем, з пражываннем, харчаваннем, вырашаюць надзённыя пытанні перасяленцаў.

Акрамя таго будуць невялікія візіты на 5–7 дзён па рэгіёнах Украіны. У прыватнасці, зараз арганізатары атрымалі адказ з Львова, там ёсць арганізацыя цэнтр СІМ. Яны адказалі, што таксама могуць супрацоўнічаць — прынясць валанцёраў для працы ў грамадскіх прыёмных, для аказання бясплатнай юрыдычнай дапамогі. Яны, напрыклад, робяць шмат інфармацыйных акцый, дзе ўключаюць прагляды відэафільмаў па тэме правоў чалавека, а таксама займаюцца непасрэдна гуманітарнай дапамогай перасяленцам.

Праца місіі фактычна пачнецца 4 чэрвеня ў Харкаве. Ужо распрацаваны графік працы валанцёраў: кожны з іх будзе працаваць два тыдні: не ўсе адразу будуць мяняцца, а два чалавекі з'язджае — два новых прыязджае, каб заўсёды быў нехта, хто прабыў ужо тыдзень, хто разумее абстаноўку, хто ўжо працуе і мае нейкія напрацоўкі, такім чынам гэты вопыт будзе перадавацца.

Кожны дзень будзе весціся дзённік місіі ў фэйсбуку і рабіцца рэпартажы пра розныя цікавыя выпадкі, праблемы людзей, каб на прыкладзе канкрэтных сітуацый людзі атрымлівалі неабходную інфармацыю, каб больш разумелі, што там адбываецца.

«Мы гатовыя ўзаемадзейнічаць у любым кірунку, дзе будзем патрэбныя. Будзем дапамагаць і ў папяровай працы, дапамагаць перасяленцам пісаць дакументы, заяўкі на падтрымку. Таксама будзем ствараць базы дадзеных тых людзей, якія могуць дапамагчы, таму што ў арганізацый ёсць вялікія акаўнты ў фэйсбуку і ў іншых сацыяльных сетках, дзе яны збіраюць інфармацыю, якую пасля трэба сістэматызаваць, абтэлефанoўваць гэтых людзей — займацца і тэлефоннай працай, і папяровай, і практычнай. Акрамя таго, мы будзем наладжваць стасункі з іншымі праваабарончымі ўкраінскімі арганізацыямі, каб надалей супрацоўнічаць, рабіць нашу дзейнасць міжнароднай, больш адкрытай і выкарыстоўваць украінскі вопыт і ў нашай надзённай працы», — адзначыў Зміцер Салаўёў.

Па яго словах, кожны дзень будзе абнаўляцца дзённік місіі, дзе будзе напісана пра тое, што зрабілі, што бачылі цікавага, апісваць агульную сітуацыю. Гэтая інфармацыя будзе з'яўляцца ў сацыяльных сетках, самыя цікавыя выпадкі будуць дасылаць рэдактарам сайта ПЦ «Вясна». «Ёсць сэнс казаць праўду, якая яна ёсць і распаўсюджваць уласны вопыт. Папяровая справаздача таксама будзе, але самае істотнае — гэта нашая дапамога людзям, напрацоўкі, кантакты і штодзённая інфармацыя, якой мы пастараемся напаўняць інфармацыйную прастору Беларусі. Пастараемся, каб інфармацыя была эфектыўнай, цікавай, карыснай. А надалей, калі ў нас усё атрымаецца, мы б хацелі зрабіць місію пастаяннай і запрашаць да ўдзелу іншыя праваабарончыя арганізацыі, каб гэта была супольная гуманітарная місія беларускіх праваабаронцаў», — падкрэсліў Салаўёў.

**Паводле spring96.org**

## Журналістаў аштрафавалі на 30 базавых велічыняў

**Суд Дзяржынскага раёна (суддзя Шайко) прыняў рашэнне аштрафаваць журналістку Вольгу Чайчыц за парушэнне арт. 22.9 ч. 2 КаАП на 30 базавых велічыняў — 5 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Столькі ж атрымаў і Сяргей Краўчук.**

На суд у Дзяржынск прыехалі каля 20 журналістаў, у тым ліку старшыня ГА «БАЖ» Андрэй Бастунец, намеснік старшыні Міхась Янчук і прэс-сакратар арганізацыі Барыс Гарэцкі.

Усіх ахвотных упусцілі ў памяшканне, але суддзя Шайко забараніла весці ў зале суда фота- і відэаздымкі і адхіліла хадайніцтва Вольгі Чайчыц пра вядзенне працэсу па-беларуску.

Абодвух абвінавачваюць у парушэнні арт. 22.9 КаАП («незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ»). Падставай для складання пратаколаў стаў сюжэт з Фаніпалю (Дзяржынскі раён Мінскай вобласці) пра нядопуск здымачнай групы на грамадскае абмеркаванне генеральнага плану забудовы горада. Фаніпальская міліцыя раздрукавала тэкст і выявы сюжэта з сайта «Белсат» і звінаваціла журналістаў у працы без акрэдытацыі на замежны СМІ.

Вольга Чайчыц заявіла ў судзе, што толькі збірала інфармацыю, але не размяшчала яе на сайце «Белсата», бо не з'яўляецца супрацоўніцай ні гэтага, ні якога-кольвек іншага СМІ. Таму абвінавачваць яе ў «вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ» недарэчна. Адзін з фігурантаў згаданага сюжэту Уладзімір Высоцкі расказаў у судзе, што ў дзень правядзення здымкаў размаўляў са многімі журналістамі і не памятае, ці паказвала яму Вольга Чайчыц якія-кольвек дакументы. Адвакатка Чайчыц Кацярына Пятровіч настойвала на невінаватасці падабароннай з-за адсутнасці доказаў таго, што яна працуе як журналіст замежнага СМІ без акрэдытацыі.

Па падліках ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», у 2015 годзе беларускіх калег ужо 16 разоў прызнавалі вінаватымі ў парушэнні артыкула 22.9 КаАП, а агульная сума штрафаў па гэтым артыкуле цяпер перавышае 70 мільёнаў рублёў.

**Прэс-служба БАЖ**

## Ветэрана падманулі?

**Фелікс Шкірманкоў спадзяваўся, што абяцанне кіраўніка краіны будзе выкананае да 9 мая, але...**

Лукашэнка падчас наведвання Слаўгарада 26 красавіка паабяцаў мясцоваму сябру БНФ і ветэрану вайны Феліксу Шкірманкову адмяніць дарожны падатак для ветэранаў Другой сусветнай вайны. Праўда, кажа ветэран, дату адмены не называлі, і спачатку ён спадзяваўся, што зроблена гэта будзе да дня Перамогі. Спадзяванні не спраўдзіліся, і ветэран вымушаны быў заплаціць 600 тысяч дарожнага падатку перад тэхаглядам.

«І калі яго адменяць?.. Калі я праходзіў тэхагляд, то мне хлопцы сказалі, што яны, напэўна, з новага года гэта зробяць. Бо ім паперы наконт таго, як праводзіць тэхагляд і што там рабіць, прыходзяць у студзені заўсёды», — распавёў ветэран.

Па словах Шкірманкова, ён ужо збіраўся напісаць артыкул пра тое, як прэзідэнт падмануў ветэрана, але людзі яго адгаварылі. Маўляў, калі такое напішаш, то дакладна нічога не адменяць.

**Паводле «Еўрарадыё»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Зноўку ў школу

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У гэтым годзе «першы раз у першы клас» пойдуць не толькі дзеці, але і некаторыя дарослыя. Асабліва тыя, хто ўжо даўно забыўся альбо не ведаў, што «прафсаюзы — школа камунізму».**



Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі яшчэ з часоў кіравання ёю Анатоля Тозіка выкручвала рукі Аляксандру Рыгоравічу наконт таго, каб на кожным прадпрыемстве, незалежна ад формы ўласнасці, былі створаныя суполкі ФПБ. Нарэшце, яны свайго дамагліся. Яшчэ 22 мая, выступаючы на з'ездзе гэтага прафсаюзнага аб'яднання, кіраўнік дзяржавы сказаў, што «прафсаюзныя арганізацыі павінны ўдзельнічаць у вырашэнні надзённых праблем у рамках дзейнасці гэтых структур. На вашых плячах не толькі грамадскія працы, але і рэальныя задачы па кантролі за прадукцыйнасцю працы, яе ўмовамі, адказнасць за вынікі». І агучыў тое, чаго дамагалася ФПБ, — ужо да лета 2016 ствараць прафсаюзныя арганізацыі ва ўсіх працоўных калектывах.

Гэта былі не проста словы. Лукашэнка вельмі аператыўна выканаў сваё ж абяцанне заразіць прафсаюзам кожны працоўны калектыў. Ужо 2 чэрвеня ён падпісаў дэкрэт №4, якім унёс папраўкі ў дэкрэт №2 ад 26 студзеня 1999 года №2 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванні дзейнасці палітычных партый, прафесійных саюзаў, іншых грамадскіх аб'яднанняў». Паводле паправак, выключаецца палажэнне аб неабходнасці наяўнасці не менш за 10% працуючых (навучэнцаў) ад іх агульнай колькасці на прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі для стварэння і дзейнасці там прафсаюза. Акрамя таго, прыведзены ў адпаведнасць з дзеючым заканадаўствам асобныя прадпісанні Палажэння аб дзяржаўнай рэгістрацыі (перарэгістрацыі) прафесійных саюзаў і іх саюзаў (асацыяцый).

«Унесеныя змены ствараюць больш спрыяльныя ўмовы для дзейнасці прафсаюзаў, рэалізацыі і абароны сацыяльна-працоўных правоў і інтарэсаў работнікаў», — гаворыцца ў афіцыйным каментары.

Ну што ж, за што змагаліся, на тое і нарваліся. Зараз ФПБ павінна моцна чухаць патыліцу, якім чынам выканаць тое, што яны патрабавалі зрабіць з дзясятак гадоў. Гэта называецца, знайшлі прыгоды на сваю галаву.

Па-першае, прафсаюз — гэта фармальна добраахвотнае грамадскае аб'яднанне, створанае для абароны сваіх сябраў у працоўнай сферы. Загад ствараць на кожным прадпрыемстве суполку ФПБ парушае права чалавека на асацыяцыю «наадварот». Раней у сінявокай былі ў наяўнасці тысячы прыкладаў таго, як грамадзянам Мінюст забараняў ствараць грамадскія аб'яднанні і адмаўляў у іх рэгістрацыі. Зараз жа, дзякуючы намаганням ФПБ, грамадзянаў прымушаюць ствараць у сябе на працы асобна ўзятае грамадскае аб'яднанне. А калі працоўны калектыў, напрыклад, не хоча асацыявацца ў прафсаюз? Калі працоўных усё задавальняе, і ў прафсаюзе няма патрэбы? Усё роўна яго ствараць?

Па-другое, як тады быць з рознымі ўказамі і дэкрэтамі аб дэбюракратызацыі? На кожным прадпрыемстве трэба ствараць як мінімум адну бюракратычную адзінку старшыні прафсаюза. Гэта будзе вялікая праблема для маленькіх калектываў, дзе працуюць тры-пяць чалавек. Калі аднаго з іх «кінуць на прафсаюз», то бок запаўняць нікому не патрэбныя паперкі, без якіх і раней жылі нармальна, то, безумоўна, «адрыў ад вытворчасці» моцна адлюструецца на гэтай самай вытворчасці.

І не толькі на вытворчасці. У самой ФПБ павінны будуць стварыцца новыя штаты кантралёраў за новымі прафсаюзамі, новы бюракратычны апарат па іх уліку, сістэматызацыі і іншых спосабах перасоўвання паперак з аднаго боку пісьмовага стала на іншы. І кожнаму трэба плаціць заробак. Ці ў ФПБ забагата грошай?

Па-трэцяе, я сплю і бачу, як тая ж Федэрацыя, згодна з тым, чаго дамаглася ад нашага правадыра, спрабуе стварыць суполку прафсаюза ў так званых «рэстаранах McDonald's». Нагадаю, што палітыка гэтых бутэрбродных такая, што стварэнне прафсаюзаў у большасці з іх фактычна забароненае.

Але няма шкоды без карысці. Усе памятаюць, для чаго ў 1999 годзе была ўведзеная планка «не менш 10% супрацоўнікаў прадпрыемства ў прафсаюзе». Гэта палажэнне, фактычна, вышчамляла з прадпрыемстваў незалежныя прафесійныя суполкі, — тыя, якія, у адрозненне ад ФПБ, рэальна змагаліся за правы працоўных, асабліва на дзяржаўных прадпрыемствах. Зараз гэтае палажэнне скасаванае. А значыць, незалежныя прафсаюзы маюць шанец на вяртанне туды, адкуль яны былі выціснутыя. Апроч таго, гэта дае шанец і на стварэнне новых незалежных прафсаюзаў.

Памятаеце гучны выпадак мікашэвіцкага прадпрыемства «Граніт», калі колькі працоўных вышлі з афіцыйнага прафсаюза і паспрабавалі стварыць свой, незалежны? Зараз у гэтых спрэчках працоўным будзе прасцей.

Такім чынам, ФПБ ад сваіх здзейсненых мараў можа атрымаць зусім не тое, на што яны разлічвалі. Федэрацыя стала асацыюецца з уладамі і кіраўніцтвам прадпрыемстваў. Зараз, асабліва ва ўмовах эканамічнага крызісу, працоўным патрэбны тыя, хто будзе рэальна абараняць іх правы. І вяртанне незалежных прафсаюзаў на прадпрыемствы цалкам рэальнае. Трэба толькі не спаць у шапку, а максімальна скарыстаць новыя палажэнні дакумента, які падмахнуў Аляксандр Рыгоравіч.

А для тых, хто летам збіраецца не рыхтавацца да школы, а ў адпачынак, нашае Міністэрства замежных спраў падрыхтавала прыгожы сюрпрыз. Яно знайшло яшчэ адну альтэрнатыву акупаванаму Крыму. Згодна паведамленню прэс-службы МЗС, з 1 ліпеня ўлады В'етнама вызвалілі грамадзян Беларусі, якія прыбываюць у гэтую краіну на тэрмін да 15 дзён, ад неабходнасці атрымання віз, незалежна ад тыпу пашпарту і мэты візіту.

Адзіны недахоп В'етнама як «крымскай альтэрнатывы» — гэта пералёт туды, які цягнецца каля 10 гадзінаў. У астатнім — сапраўды альтэрнатыва. Далёкая, экзатычная краіна, з працяглым выхадам да мора. Лёгкі для беларуса абменны курс долара, амаль як у нас: 1 долар — 21.800 в'етнамскіх донгаў. Як і ў нас, ва В'етнаме няма манетаў. А расійскія, і нават беларускія аператары прапануюць туры ў гэтую краіну коштам ад 700 долараў.

У прынцыпе, гэта супастаўляльна з коштамі «даваннага» Крыма, куды летам 2013-га туры былі па 500–600 амерыканскіх рублёў. Але гэта ж В'етнам!

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Міхаіл Жураўкоў

**Міністр адукацыі Беларусі мае свой погляд на тое, за што бацькі павінны плаціць у школах.**

Жураўкоў паведаміў, што лічыць нармальнай практыку збору грошай з бацькоў на патрэбу ўстановы адукацыі.

У эфіры праграмы «Тыдзень» на СТВ Жураўкоў паведаміў, што сам такія зборы плоціць. Паводле ягоных словаў, ён і іншыя бацькі сабраліся і памянялі ў класнай аўдыторыі гімназіі, дзе вучацца ягоныя дзеці, вокны. «У мінулым годзе і ў пазамінулым я прыходзіў, і мы бялілі столь, таксама ў класнай аўдыторыі. Нічога ў гэтым дрэннага не бачу. Гэта нармальна. Галоўнае, каб усё было па жаданні», — упэўнены міністр.

«У кожным класе ёсць апякунскі савет, і апякунскі савет павінен вырашаць, што ў дадзенай школе адрамантаваць, закупіць, каму падарыць і гэтак далей», — дадаў ён.

## Кірыл Сілівончык

**Асуджанаму ў Расіі беларусу забаранілі атрымліваць лісты па-беларуску.**



Лісты на беларускай мове да арыштаванага за салідарнасць з Украінай у Расіі Кірыла Сілівончыка не даходзяць, паведаміў «Нашай ніве» чытач Юрый Станкевіч.

Паводле яго слоў, лісты на беларускай мове да Кірылы Сілівончыка не прапускаюць. «Пішуць на канверце, што «перапіска вядзецца толькі на рускай», і адсылаюць назад. Вось вам і адзін народ і падабенства моў», — паведамляе ён.

Нагадаем, што Маскоўскі ваенны суд прысудзіў Кірыла да двух гадоў калоніі-пасялення. 22-гадовы Сілівончык быў прызнаны вінаватым па артыкуле «Публічнае апраўданне тэрарызму або публічныя заклікі да яго». Ён публікаваў на сваёй старонцы ў сацсетцы тэксты і малюнкі ў падтрымку Украіны і з асуджэннем расійскай палітыкі. Ён не патрапіў пад амністыю з нагоды юбілею Перамогі.

У красавіку карыстальнікі інтэрнэту распачалі акцыю падтрымкі Кірыла пад спецыяльна створаным хэштэгам #freebelarusian. Лісты падтрымкі можна адпраўляць на адрас: 603009 Расія, Ніжагародская вобласць, г. Ніжні Ноўгарад, пр. Гагарына, 26а, СІЗА №1, Кірылу Валер'евічу Сілівончыку.

## Рафаэль Пуарэ

**Знакаміты французскі біятланіст, былы трэнер зборнай Беларусі па біятлоне здзівіў усіх аматараў спорту.**



Нарвежскія журналісты знайшлі васьміразовага чэмпіёна свету па біятлоне, а таксама чатырохразовага пераможцу Кубка свету на... нафтагазавай платформе!

У інтэрв'ю журналістам Рафаэль Пуарэ распавёў, што пасля разрыву кантракту з Беларускай федэрацыяй біятлона ён 9 месяцаў сядзеў без працы. А потым раптам уладкаваўся на нафтавую платформу ў Нарвегіі. «Мне хацелася новых выклікаў, акунуцца ў новае асяроддзе. І мне трэба было больш часу на дзяцей, я хацеў стаць сапраўдным бацькам», — распавёў Пуарэ.

У выніку Рафаэль Пуарэ падпісаў кантракт з кампаніяй «Aker Solutions». Ён працуе ў Паўночным моры на платформе рознарабочым. Пракладае кабелі і рамантуе абсталяванне, удзельнічаючы ў праекце, які працягнецца да лютага 2016 года.

«Мне ўсміхнулася ўдача, я апынуўся ў патрэбным месцы ў патрэбны час. Гэта паўнавартасная праца з 7 раніцы да 7 вечара, 12 гадзін цяжкай працы. Але гэта ўнікальнае асяроддзе. Мне ніколі не даводзілася знаходзіцца ў такіх працоўных умовах, я вельмі камфортна сябе адчуваю. Але... я памятаю першы дзень. Гэта было ў лістападзе, цемра апраметная, я сядзеў у верталёце па шляху на нафтавую платформу. Пражэктары, усякія агрэгаты, шалёны шум. Тады я падумаў: «Што я нарабіў?» — распавядае Пуарэ.

Старэйшым трэнерам беларускай зборнай па біятлоне Рафаэль Пуарэ працаваў у сезоне 2012–2013 гадоў. Кантракт з ім быў разарваны датэрмінова па пагадненні бакоў.

# Лукашэнка зойме месца ў гісторыі пасля Пазьняка і Карпенкі

**У дзень свайго 70-годдзя галоўны рэдактар газеты «Новы час», паплечнік Генадзя Карпенкі, палітык, журналіст і гісторык Аляксей Кароль распавёў «Свабодзе» пра «самы цікавы перыяд свайго жыцця» — 1990-я гады, калі Беларусь дамаглася незалежнасці, а пасля страціла амаль усе набыткі нацыянальнага Адраджэння.**



Дэманстрацыя 27 ліпеня 1998 года ў Дзень незалежнасці (даты надання канстытуцыйнай вартасці Дэкларацыі аб абвяшчэнні Беларусі суверэннай незалежнай рэспублікай). Злева направа: Валеры Шчукін, дэпутат, праваабаронца; Аляксей Караль; Станіслаў Багданкевіч — былы старшыня Нацыянальнага банка, на той час — лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі; Сямён Шарэцкі; Юры Хадыка; Генадзь Карпенка; Мікола Статкевіч, лідар сацыял-дэмакратыі



Сустрэча беларускай дэлегацыі з Генеральным сакратаром Рады Еўрапейскага Саюза Хаўерам Саланам у яго офісе напярэдадні парламенцкіх выбараў у Беларусі. Справа налева: Вінцук Вячорка, Андрэй Саннікаў, Хаўер Салана, Анатоль Лябедзька, Аляксей Кароль. 2002 год.

### «Я сын палітсупрацоўніка, якога хацелі выслаць на Калыму»

*— Спадар Аляксей, вы нарадзіліся ў мястэчку Копысь Аршанскага раёна, там жа, дзе і Аляксандр Лукашэнка. Ці ёсць нейкія дзіцячыя ўспаміны, якія вас звязваюць?*

— У Копысі я знаходзіўся толькі першы год свайго жыцця. Нарадзіўся я там з той прычыны, што калі пачалася вайна, мая маці ўцякла тыламі з Беластоку ў Копысь, дзе жыў яе бацька. А бацька мой удзельнічаў у аперацыі «Багратыён», вызваляў Беларусь, атрымаў адпачынак і прыехаў у Копысь з-пад Кёнігсбергу. Вось так і атрымаўся я. У 1946 годзе бацька мой вярнуўся з фронту, і жыццё пайшло па-іншаму — мы жылі ў Касцюковічах, да сёмага класу я хадзіў у школу ў Смаргоні, дзе бацька ўзначальваў райвыканкам, затым — у Маладзечне, а самастойнае жыццё ўжо праходзіла ў Мінску.

*— Ваш бацька быў партыйным сакратаром. Як ён ставіўся да вашых незалежніцкіх поглядаў?*

— У мяне з ім складваліся цудоўныя адносіны. Справа ў тым, што ў 1937 годзе ён ледзь не быў рэпрэсаваны на апошняй стадыі. Я нават знайшоў дакументы ў архіве, якія сведчаць пра тое, якія яму давалі вымову ў часы рэпрэсіяў, за што выключалі з партыі. Апошняй стадыяй была б Калыма, але ў 1938 годзе, калі сістэма пераступала з нагі на нагу, калі замест Яжова прыйшоў Берыя, была частковая рэабілітацыя, што і выратавала бацьку ад высылкі. Ён пайшоў на фронт добраахвотнікам, прайшоў усю вайну на перадавой. Таму маё выхаванне не было ў догматах. Калі ішла перабудова, я пытаў у бацькі, ці адчуваў ён і яго паплечнікі ў 30-я гады, што нешта не так. Ён адказваў, што так, адчувалі, асабліва, калі па Прыпяці ішлі баржы з зэкамі, якія вывозілі ў высылку нявінных людзей.

### «У першым класе мне ставілі кол за слова «Сталін» з малой літары»

*— То ваша вальнадумства магло праявіцца ўжо ў вельмі маладым узросце?*

— У першым класе я напісаў слова «Сталін» з малой літары і атрымаў за гэта «кол». Гэта была звычайная памылка. Але цікавая рэакцыя. Бацькоў нават выклікалі ў школу. Правялі гутарку, даводзілі нешта. Быў шум вакол мяне, але ніякіх сур'ёзных наступстваў ні для мяне, ні для бацькі не было — ішоў 1954 год.

*— Вы кандыдат гістарычных навук і аўтар трох кніг і манаграфіяў: пра Першую расійскую рэвалюцыю 1905–1907 гадоў, пра Другі з'езд РСДРП і пра Усевалада Ігнатоўскага. Адну з іх вы пісалі пад доктарскую дысертацыю. Чаму не абараніліся?*

— Таму што пачалася перабудова, і я пайшоў у палітыку, кіруючыся тым, што ее цікавей рабіць, чым апісваць. А там ужо ўсё абрынулася — і вучоныя саветы, і ўсё іншае, таму мяне гэта ўжо не цікавіла. Вучоныя ступені важныя ў навуцы тады, калі ты ёй непасрэдна займаешся. А калі ўжо рынуліся мы ўсе ў палітыку, натхнёныя перспектывай дэмакратызацыі, гэта быў, па сутнасці, парыў, які ахапіў на той час працэнтаў на 70 усе навуковыя колы. Іншая справа, што пасля таго, як пачаўся адкат, бальшыня вярнулася на ранейшыя месцы, але частка засталася актыўнымі праціўнікамі аўтарытарнага рэжыму.

### «Калі б Генадзь Карпенка быў зарэгістраваны ў 1994 годзе кандыдатам, вынікі выбараў былі б зусім іншыя»

*— Вы ў дэмакратычным руху з першых гадоў адналення Незалежнасці. На ваш погляд — якая падзея зрабілася тым самым «пунктам невяртання», пасля якога дэмакратычныя сілы ўжо не маглі кардынальна паўплываць на сітуацыю?*

— Гэта вызначыў Генадзь Карпенка, калі ў 1999 годзе мы былі з ім у Празе. Тады ён вырашаў для сябе балючае пытанне — ісці на віртуальныя прэзідэнцкія выбары 1999 года ці пакінуць сябе для ўдзелу ў сапраўдных выбарах 2001 года. Ён вельмі напружана пра гэта думаў, мы размаўлялі ўсю ноч, едучы ў адным купэ. І сказаў ён такую фразу: «Выбары 2001 года яшчэ рэальна выйграць, потым сістэма ўмацуецца настолькі, што будзе бессэнсоўна нешта рабіць». Я пагаджаюся з Карпенкам — на выбарах 2001 года яшчэ быў шанец для дэмакратычных сілаў, гэты і быў «пункт невяртання». Мая ацэнка — на тых выбарах ён мог бы стаць адзіным кандыдатам ад апазіцыі, бо ўсе полюсы дэмакратаў ён бы ўспрыняў і прыняў. Ну, і вядома, што Генадзь Карпенка да тых выбараў не дажыў...

*— А ці лічыце, што Генадзь Карпенка мог бы выйграць выбары 1994-га, калі б быў зарэгістраваны ў якасці кандыдата ў прэзідэнты?*

— Калі б ён удзельнічаў, то вынік выбараў быў бы іншы. Недарэмна яго вылучэння не хацелі ні Кебіч, ні апазіцыя БНФ. Якія былі дапушчаныя Генадзем Карпенкам памылкі? Ён ішоў досыць марудліва да рашэння браць удзел у выбарах. Ён сам казаў мне пра гэта ў 1999 годзе, што яму не хапала апантанасці, маўляў, ён то да Зянона сходзіць, то з Кебічам перамовіць у лазні. Гэта яго ўласная ацэнка. Што да 1994 года, калі Карпенку не зарэгістравалі кандыдатам, у нас была такая ацэнка: у той сітуацыі пры настроі людзей, калі яны яшчэ не адкаціліся цалкам ад дэмакратыі, ад памкненняў да пераменаў, ён быў найлепшай фігурай. І гаспадарнік, і дэпутат, і новая партыя. Калі мы збіралі подпісы за яго вылучэнне, то адчувалі — ён нармальна ўспрымаецца самымі рознымі пластамі насельніцтва.

### «Асэнсаванне памылак апошніх 20 гадоў — яшчэ наперадзе»

*— Вы сказалі, што пункт невяртання — 2001 год. Разам з тым менавіта рэферэндум 1995 года часта называюць смяротным ударам па апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэння. Як вы думаеце — ці рэальна тады было яго пазбегнуць, прадухіліць?*

— Я згодны з тым, што гэта быў смяротны ўдар па нацыянальным Адраджэнні. Ці была дэмакратычная альтэрнатыва — пра гэта ідзе спрэчка да гэтага часу. Мой адказ — была, калі б не было шэрагу памылак, якія былі зробленыя яшчэ да гэтага рэферэндуму. Трэба было прыняць больш істотны закон аб партыях, не дапусціць у 1994 годзе да ўдзелу ў выбарах папуліста (а тое, што гэты чалавек — папуліст, было вельмі добра бачна ўжо тады). Калі ў 1995 годзе ўлада была ў руках Лукашэнкі, было цяжка супрацьстаяць. Таксама ў 1995-м нават сярод дэмакратычных сілаў не было агульнага плану дзеянняў. Шэраг гэтых памылак злучыліся ў ланцужок і вызначылі вынік рэферэндуму. Я думаю, што яшчэ раней памылкай было тое, што апазіцыя пагадзілася на ўвядзенне пасады прэзідэнта (пры прыняцці Канстытуцыі 1994 года дэпутаты апазіцыі БНФ галасавалі супраць. — рэд.). Калі трэба сказаць двума словамі, то я скажу наступнае — адкат адбыўся праз слабасць нацыянальнай эліты, менавіта яе няспеласць не дазволіла нам выйсці на свайго Вацлава Гавала, а прывяла да зусім іншай фігуры.

*— Як палітолаг, ці дапускаеце вы даследаванні кшталту «што было б, калі б...» — або гэта бессэнсоўна, і гісторыя не мае ўмоўнага ладу?*

— На жаль, гісторыя сапраўды не мае ўмоўнага ладу. Але як адзін са спосабаў вывучэння мінулага з фармуляваннем ліній сваіх паводзінаў у сучасным — гэта цудоўны метад. Іншая справа, што часамі не хочацца адказваць на такія пытанні, бо ў іх закладзенае ўказанне на пэўныя памылкі. Але як аналіз, як спосаб ацаніць тую сітуацыю гэта цалкам мае права на існаванне. Тым больш, калі ўзяць нашу сітуацыю з 20-гадовым адкатам ад дэмакратыі, то зразумела, што далёка не ўсе памылкі асэнсаваныя аналітыкамі і палітыкамі. Ёсць мемуары — і гэта цудоўная дапамога. Але аналітычная праца, манаграфіі, доктарскія дысертацыі пра гэты перыяд — яны яшчэ наперадзе.

### «Лукашэнка — пасля Пазьняка і Карпенкі»

*— Калі б вы рабілі такі аналіз, то як бы вызначылі месца Лукашэнкі ў гісторыі Беларусі?*

— У гісторыю ён увайшоў. Але пасля Зянона Станіслававіча Пазьняка і Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі. Ацэнкі Лукашэнкі будуць хутчэй адмоўныя. Пазітыўныя ацэнкі маглі б быць, каб ён усталяваў аўтарытарны рэжым развіцця, ён жа адразу ўсталяваў аўтарытарны рэжым стагнацыі.

*— Цяпер вы журналіст і рэдактар. Раней узначальвалі газету «Згода», цяпер — «Новы час». Падзяліцеся рэцэптам выжывання незалежнага выдання ў залежным і недэмакратычным асяроддзі.*

— Ідэал аўтарытарнага і таталітарнага рэжымаў — адсутнасць любой альтэрнатыўнай апазіцыйнай прэсы. Ён быў рэалізаваны ў СССР і ў гітлераўскай Нямеччыне, дзе былі толькі падпольныя ўлёткі і вядомая расплата за іх. На сучасным этапе такі ідэал аказаўся не пад сілу аўтарытарнаму рэжыму ў Беларусі. І здаецца, што не пад сілу ён і рэжыму ў Расіі. Таму праводзіцца іншая палітыка — трымаць незалежныя СМІ ў звужаным да нельга варыянце, у гета. Гэта дае магчымасць апазіцыйным незалежным сілам выдаваць СМІ, якія прытрымліваюцца прынцыпаў аб'ектыўнасці. Такія СМІ могуць разлічваць на салідарную знешнюю падтрымку. А другая частка рэцэпту вельмі простая — працаваць, не здавацца, імкнуцца рабіць сваю справу.

Паводле «Радыё Свабода»



Прэс-канферэнцыя Беларускай асацыяцыі журналістаў на знак пратэсту супраць вынікаў рэферэндума, які прыняў папраўкі да Канстытуцыі 1994 года. Выступае старшыня праваой камісіі БАЖ Міхаіл Пастухоў, доктар юрыдычных навук, былы суддзя Канстытуцыйнага суда, які падаў у адстаўку на знак пратэста супраць рэферэндума. 1996 год.

# Калі б яны атрымалі грамадзянства, мы б ужо жылі ў Расіі

Аксана КОЛБ



**«Ну, як табе Латвія?» — пыталіся знаёмыя, калі я вярнулася ў Мінск. «Вельмі спадабалася. Толькі зашмат рускіх», — адказвала я.**

Прывяду некалькі лічбаў: на сённяшні дзень амаль 27 працэнтаў насельніцтва Латвіі складаюць этнічныя рускія. Гэта крыху больш за 500 тысяч чалавек. Аднак у Рызе колькасць рускіх — 38 працэнтаў, або больш за 250 тысяч чалавек. Для параўнання, этнічных латышоў у Рызе — каля 290 тысяч. А яшчэ — каля 26 тысяч беларусаў, 23 тысячы украінцаў і 12 тысяч палякаў.

За савецкім часам у Рыгу з'язджаліся рабочыя з усяго СССР, аднак пераважна з тэрыторыі РСФСР для працы на такіх гігантах прамысловасці, як «ВЭФ», «РАФ», «Аўтаэлектрапрыбор», а таксама на шматлікіх заводах, што абслугоўвалі ваенна-прамысловы комплекс. ВУЗы Ленінграда і Чэлябінска нават рыхтавалі спецыялістаў адмыслова для працы ў сталіцы Латвіі. А шматлікія ПТВ накіроўвалі сюды сваіх выпускнікоў. Гэта наклала своеасаблівы адбітак на сацыяльную структуру сённяшняй Латвіі, асабліва Рыгі.

Магчыма таму з першых крокаў на Рыжскім вакзале цябе сустракае руская нецэнзурная лаянка. Рускамоўныя жабракі напаліткі, якіх нямала на прывакзальнай плошчы. А рускі шансон уперамешку з рускай папсой чуецца ў першым жа падземным пераходзе. На жаль, менавіта такія першыя ўражанні пакідае сталіца Латвіі. І шмат хто з транзітных пасажыраў з гэтымі ўражаннямі і з'язджае. Хаця на самай справе Рыга — вельмі прыгожы і культурны горад. Са шматлікімі паркам і скверамі, цудоўнымі помнікамі архітэктуры і ветлівымі людзьмі розных нацыянальнасцяў.

Аднак я ехала ў Латвію, каб паспрабаваць адказаць на пытанне: якія яны, рускія Латвіі? Ці ўяўляюць яны хоць якую пагрозу незалежнасці гэтай краны? Ці здолела ашалелая расійская прапаганда зрабіць з гэтых людзей «пятую калону»? А можа, ужо зрабіла? Адказы на гэтыя пытанні я шукала ў размовах з рознымі людзьмі.

Адразу скажу, што ніколі не верыла ў расійскую прапаганду пра тое, што рускіх у Латвіі дыскрымінуюць. Найперш таму, што не лічу патрабаванне ведання мовы тытульнай нацыі дыскрымінацыяй. Таму ў размовах з рускімі, якія пражылі ў Латвіі ўсё жыццё і ніколі не хацелі вывучыць латышскую мову, я не была бесстаронняй.

Агрэсія Расіі супраць Украіны зрабіла нестабільнай сітуацыю ў шматлікіх краінах нашага рэгіёну. У краінах Балтыі, якія нягледзячы на ўступленне ў ЕС і NATO адчуваюць некаторую небяспеку з боку пуцінскага рэжыму. Для Літвы, Латвіі і Эстоніі зноў актуальнай стала тэма русафобіі. Аднак менавіта русафобіі, а не нянавісці да рускіх. Проста апошнім часам шмат хто з жыхароў Латвіі задае сабе пытанне: калі ў нас будзе, як ва Украіне, на баку якой краіны я буду? А на якім будзе мой сусед? Згадзіцеся, гэта пытанне шэптам гучыць і ў Беларусі.

Дарэчы, у Латвіі ёсць такія рускія, якія, як і нашы заходнерусісты, лічаць латышоў штучнай нацыяй і ўпэўненыя, што тэрыторыя сучаснай Латвіі «исконно русская». Але такіх амаль што адзінкі, і мы не будзем рабіць ім рэкламу.

Паспрабуем разабрацца ў тых рускіх, якія, прынамсі пакуль што, лічаць Латвію не проста самастойнай незалежнай краінай, але і сваёй радзімай. Іх можна падзяліць на тры катэгорыі: грамадзяне Латвіі па нараджэнні, грамадзяне Латвіі праз натуралізацыю і неграмадзяне. Ёсць яшчэ і чацвёртая катэгорыя рускіх — пэўная колькасць грамадзян Расіі, якія маюць у Латвіі сталы від на жыхарства. Збольшага гэта рускія, якія прыехалі ў Латвію ўжо пасля аднаўлення яе незалежнасці, набылі тут нерухомасць, маюць бізнес ці проста сталую працу. Аднак ёсць і тыя, хто вырашыў замест латышскага прыняць расійскае грамадзянства, але пры гэтым застаўся жыць у Латвіі. Больш падрабязна спынюся толькі на трох катэгорыях.

## Грамадзяне па нараджэнні

4 мая 1990 года Вярхоўны савет Латвійскай ССР прыняў дэкларацыю «Аб аднаўленні незалежнасці Латвійскай Рэспублікі». З 201 дэпутата за яе прагаласавалі 138. Дэкларацыя аднавіла Канстытуцыю Латвійскай Рэспублікі 1922 года і адначасова кваліфікавала ўступленне савецкіх войскаў на тэрыторыю краіны 17 чэрвеня 1940 года як міжнароднае злачынства.

15 кастрычніка 1991 года Вярхоўны Савет Латвійскай Рэспублікі прыняў пастанову «Аб аднаўленні правоў грамадзян Латвійскай Рэспублікі і асноўных умовах натуралізацыі». Згодна з ім, грамадзянства было прызнана толькі за асобамі, былымі грамадзянамі Латвійскай Рэспублікі на 17 чэрвеня 1940 года, і іх нашчадкамі. Такім чынам, Латвія не пайшла шляхам так званага «нулявога варыянту», які абрала Літва, падараваўшы грамадзянства ўсім тым, хто жыў на яе тэрыторыі на момант аднаўлення незалежнасці.

Чаму? Прывяду толькі некалькі лічбаў. На пачатку 1940 года латышы складалі амаль 77 працэнтаў насельніцтва краіны, рускія — каля 9 працэнтаў. А ў 1989 годзе латышоў было ўжо толькі 52 працэнты (1 мільён 390 тысяч), рускіх — амаль 34 працэнты (больш за 905 тысяч). Прычым гэта быў вынік не натуральнага прыросту, а свядомай палітыкі савецкай улады, якая, акрамя рабочых і інжынераў, масава засяляла краіну дзейнымі ваеннымі і адстаўнікамі.

Таму не дзіўна, што новыя ўлады незалежнай Латвіі вырашылі не спяшацца з аўтаматычным грамадзянствам для ўсіх жыхароў краіны. Бо акрамя пашпарта грамадзяніна, усе гэтыя шматлікія працоўныя мігранты і былыя вайскоўцы атрымалі б і права галасаваць і быць абранымі.

## Знак памяці ўдзельнікаў барыкад 1991

«Калі б усе гэтыя людзі атрымалі тады грамадзянства, мы б зараз жылі ў Расіі», — заўважыла Лайма, касірка гандлёвага цэнтру «Стокман», што побач з чыгуначным вакзалам Рыгі. У 1990-м ёй было 25 гадоў. Яе дзед загінуў недзе на абшарах Сібіры. Бабуля неўзабаве пасля арышту мужа памерла ад інфаркту. А маці вырасла ў інтэрнаце. Лайма добра памятае падзеі студзеня 1991 года, калі АМАП паспрабаваў разагнаць масавыя акцыі ў падтрымку Вярхоўнага Савета Латвіі і супраць падаўлення акцый у Літве. Тады загінула 5 чалавек, было паранена восем.

Але мова зараз не пра гэта. На пачатку 1990-х гадоў па нараджэнні грамадзянамі Латвіі сталі амаль дзве трацiны насельніцтва краіны. Сярод тых, чые продкі спрадвеку жылі на тэрыторыі Латвіі, і дэпутат Сейму ад блоку «Адзінства», сябра камісіі па нацыянальнай бяспецы і абароне Аляксей Ласкутоў (ці Аляксейс Ласкутоўс, як будзе правільна па-латышску). Праўда, пра свайго дзеда, які жыў у Латвіі, Аляксей даведаўся не адразу. Таму ў пачатку 1990-х гадоў пачаў сур'ёзна вывучаць латышскую мову, каб атрымаць грамадзянства і пачаць будаваць кар'еру ў акадэміі паліцыі Латвіі.



Аляксей Ласкутоў на мяжы з Расіяй

Родная мова Аляксея руская, але зараз ён гэтак жа вольна валодае латышскай мовай і яшчэ англійскай. Ён зрабіў паспяховую юрыдычную кар'еру, неаднойчы абіраўся дэпутатам парламента, узначальвае камісію па барацьбе з карупцыяй. Аляксей лічыць абсалютна слушным закон пра грамадзянства.

«Калі б у Латвію штучна не перасялялі рускіх, калі б тут заставаліся жыць толькі тыя, хто жыў спрадвеку, можна было б аб'явіць грамадзянамі ўсіх. Але толькі ў гэтым выпадку. І мне дзіўна чуць, што некаторыя кажуць, маўляў незалежная Латвія пачалася ў 1990-я гады, таму і грамадзянства трэба было даваць усім, — кажа Ласкутоў. — Дарэчы, у свой час значная колькасць жыхароў Латвіі не хацела атрымліваць грамадзянства, каб не служыць у арміі. Але ў нас ужо шмат гадоў прафесійная армія, а яны прызвычаіліся так жыць, і ім так зручна. Ім камфортна так жыць. Яны жадаюць, каб усе ведалі дзве мовы, а яны — толькі рускую. Пры гэтым яны кажуць, што выступаюць за рэальнае двухмоўе. Я, дарэчы, таксама прыхільнік рэальнага двухмоўя, але толькі тады, калі ўсе рускія будуць ведаць латышскую мову».

Аляксей кажа, што ёсць і тыя, якія жывуць у чаканні рэваншу, яны ўсё яшчэ мараць пра часы СССР, яны ніколі не вучылі і не збіраюцца вучыць латышскую мову, аднак лічаць, што грамадзянства ім павінны былі даць толькі, таму што яны шмат гадоў тут жывуць.

Тым не менш, Аляксей лічыць, што абсалютная большасць рускіх у Латвіі, нягледзячы на наяўнасць ці адсутнасць у іх грамадзянства, не хацелі б жыць у Расіі, і больш таго, у надзвычайнай сітуацыі сталі б на абарону незалежнасці Латвіі. Хаця прызнае наяўнасць вельмі абмежаванага кола маргіналаў, якіх могуць выкарыстаць для эскалацыі сітуацыі ў Латвіі. Аднак пуцінскаму рэжыму, упэўнены Ласкутоў, не патрэбны рускамоўныя, каб пачаць агрэсію. Яму дастаткова проста сказаць, што Расія ідзе іх абараняць. «Дарэчы, клопат Расіі пра суайчыннікаў можа распаўсюдзіцца і на Беларусь», — папярэджвае дэпутат.



Міраслаў Мітрафанаў, Рускі саюз Латвіі

Яшчэ адзін грамадзянін па нараджэнні, сустаршыня праўлення партыі «Рускі саюз Латвіі» Міраслаў Мітрафанаў лічыць, што латышскія ўлады выкарыстоўваюць сітуацыю ва Украіне, каб павялічыць бюджэтныя выдаткі на абарону. Па яго меркаванні, Расія зацікаўлена ў стабільнасці ў Латвіі, паколькі мае тут вялікія інвестыцыі. Мітрафанаў нават лічыць, што такая стабільнасць любым коштам не на карысць рускай грамадскасці Латвіі, бо вядзе да замоўчвання іх праблем. У першую чаргу праблем рускіх школ і неграмадзян. Цікава, што найгоршым ворагам рускіх у Рызе Мітрафанаў лічыць рускага мэра Ніла Ушакова. «Столькі рускіх школ, колькі зачыніў Ушакоў, не зачынілі ўсе разам узятыя латышскія мэры Рыгі», — кажа Міраслаў.

На жаль, сустрэцца з мэрам латышскай сталіцы ў мяне не атрымалася. Таму даведацца, што ён думае пра рускіх Латвіі і што б адказаў на абвінавачванне Мітрафанава, мы не зможам. Дарэчы, рускі мэр Ушакоў, сын настаўніцы рускай мовы і рускага інжынера, унук вайскоўцаў, атрымаў грамадзянства Латвіі толькі ў 1999 годзе ва ўзросце 23 гадоў, прайшоўшы працэдуру натуралізацыі. Але пра натуралізаваных рускіх і неграмадзян мы паразмаўляем у наступным артыкуле.

TV

## 14 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.15** Мастацкі фільм «Загадана жаніць».
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Мастацкі фільм «Не сыходзь».
**17.20** Нашы.
**17.35** Мастацкі фільм.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.45** Меладрама «Гатэль для Папялушкі».



**00.40** Мастацкі фільм «Кухня-3» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Да юбілею. Ілля Глазуноў.
**12.20** Шлюб па завяшчанні. Вяртанне Сандры.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Тэорыя змовы».
**17.15** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Што? Дзе? Калі?
**23.10** Містэр і місіс СМІ.
**23.45** Фільм «Дачка».

### СТВ

**06.05** Серыял «Студэнты International».
**07.15** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.35** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** Фільм «Мумія: Прынц Егіпта».
**10.15** Чысты праца.
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Серыял «Салдаты-2».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Фільм «Сінг-Сінг».
**15.25** Дарагая перадача.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Фатальны лік 23». Мастацкі фільм.
**22.15** Зорны рынг.
**23.20** «Масква. Дзень і ноч».
**00.15** Фільм «Сінг-Сінг».

### Беларусь 2

**06.55** Школа чараўніц.
**08.10** Серыял «Шчаслівыя разам».
**10.00** Я хачу гэта ўбачыць!
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Зразумець і абясшкодзіць.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.05** Хочу в тэлевізар!
**12.05** Серыял «Мая цудоўная няня».
**14.05** Мастацкі фільм «Муж і жонка Морган».
**15.55** Баявік «Каманда А».
**18.00** Comedy Woman.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Рэальны свет.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.45** Футбол.
**00.15** Першыя Еўрапейскія гульні ў Баку.

### Беларусь 3

**07.55** Калейдаскоп.
**08.05** «Імперыя. Пачатак». Гістарычная драма. Фільм першы «Царэвіч Аляксей». Часткі 1-я і 2-я (Расія, 2007 г.).
**09.50** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Кацярына Пытлева.
**10.30** «Наперад у мінулае».
**10.55** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**11.50** Калейдаскоп.
**12.00** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм другі «Каралі Неферціці». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**13.35** «Музеі Беларусі». Музей гісторыі горада Мінска.
**14.05** «Скачок у волю». Драматычны спектакль тэатра Сяргея Янкоўскага. Часткі 1-я і 2-я.
**15.35** «Вяртанне Міхася Забэйды». Дакументальны фільм пра сусветна вядомага беларускага спевака.
**16.25** Калейдаскоп.
**16.35** «Звычайны злачынца». Крымінальная камедыя (Вялікабрытанія, 1999 г.).
**18.05** «Культпрасвет».
**18.40** «Казус Бэлі». Лірычная камедыя (Расія, 2002 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм другі «Каралі Неферціці». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**23.35** «Культпрасвет».
**00.10** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**05.55** PRO спорт. Навіны.
**06.10** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**06.25** Футбол. Чэмпіянат свету. U-20. Чвэрцьфінал. Прамая трансляцыя.
**08.25** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Веславанне на байдарках і каноэ. Прамая трансляцыя.
**10.00** Пляжны футбол. Еўраліга. Беларусь - Польшча.
**11.10** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Веславанне на байдарках і каноэ. Прамая трансляцыя.
**12.20** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Турцыя.
**13.45** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Веславанне на байдарках і каноэ. Прамая трансляцыя.
**15.55** Гандбол. Адборачны матч чэмпіянату Еўропы - 2016. Беларусь - Літва. Прамая трансляцыя.
**17.35** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Грэка-рымская барацьба. Прамая трансляцыя.
**19.40** Пляжны футбол. Еўраліга. Расія - Беларусь.
**20.55** Футбол. Чэмпіянат свету. U-20. Чвэрцьфінал.
**22.50** Футбол. Чэмпіянат свету. U-20. Чвэрцьфінал.
**00.45** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**01.00** PRO спорт. Навіны.
**03.55** Футбол. Чэмпіянат свету. U-20. Чвэрцьфінал. Прамая трансляцыя.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Фітнес-шмітнес.
**07.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**07.45** Два на два (тэледыскусія): Марат Гаравы і Вацлаў Арэшка.
**08.15** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Планета Зямля.
**08.30** Казкі з-за акна, мультсерыял.
**08.45** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.55** Чароўнае дрэва, серыял.
**09.25** Мова нанова: Тэатр.
**09.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.05** 54 % (публіцыстычная праграма): Права да веры.
**10.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.50** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Нацыянальныя адаптацыі.
**11.15** Час гонару, серыял.
**12.05** Віртуальны скаліёз, д/ф, 2004 г., Канада.
**12.15** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж.
**12.35** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**13.25** Навенькая, дэтэктыўны серыял.
**14.10** Пражская вясна, дакументальна-пастановачны фільм.
**15.50** Сталін, д/ф.
**16.45** Лютэр, м/ф.
**18.50** Гарадзенская вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.00** U455. таямніца загінулай субмарыны, д/ф.
**19.50** Невядомая Беларусь: Зоська Верас. 1892-1991, д/ф.
**20.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.45** Загадкі беларускай гісторыі: Магіла апошняга караля.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Анатоль Лябедзька.
**21.15** Чужая, м/ф.
**23.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Уладзімір Цэслер і творчая свабода.
**23.50** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**00.35** Мент, дэтэктыўны серыял.
**01.30** Басовішча-2008. канцэрт лаўрэатаў конкурсу.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

# Якая альтэрнатыва Блатэру?

Алег НОВІКАЎ

**Наступствам карупцыйнага скандалу з удзелам футбольных чыноўнікаў стала адстаўка старшыні Міжнароднай федэрацыі футбольных асацыяцый (FIFA) і каскад заклікаў да перабудовы існуючай сістэмы сусветнага футболу.**




Нагадаем, 27 мая пракуратура Швейцарыі арыштавала па падазрэнні ў карупцыі шэраг чыноўнікаў FIFA. Дзевяць вышэйшых спартыўных функцыянераў абвінавачваюцца ў службовых і карупцыйных злачынствах, у тым ліку ў прыёме хабараў за лабіраванне краін-кандыдатаў на правядзенне Кубку свету.

Хаця рэзанансны скандал не перашкодзіў Ёзафу Блатэру праз некалькі дзён пасля гэтага ў пяты раз запар пераабрацца на пасаду кіраўніка FIFA, грамадскасць была вельмі раз'юшана. У прэсе ўзнік нават сталы тэрмін «сістэма Блатэра», што азначае футбольную мафію. Блатэра, які вырашыў балатавацца нягледзячы на выкрытую аферу ў яго канторы, асудзіў шэраг футбольных зорак, такіх, як Пеле, Лінікер і інш.

Высокі градус вакол футбольных справаў падтрымліваўся і дзякуючы палітыкам. «FIFA павінна, нарэшце, зрабіць высновы з перавыбараў Блатэра», — заявіў віцэ-старшыня Еўрапейскага парламента Аляксандр Граф Ламбсдорф. На думку палітыка, асноўныя федэрацыі, прадстаўленыя лепшымі футбольнымі камандамі планеты, маглі б аб'яднацца ў «Сусветную футбольную асацыяцыю» — World Football Association (WFA). Найбольш далёка ў крытыцы Блатэра, напэўна, пайшлі немецкія «Зялёныя». На іх думку, у кіраўніцтве Федэрацыі заселі не толькі карупцыянеры, аднак і мужчыны-мачысты, якія тармозяць развіццё жаночага футболу. Але, калі тэма дыскрымінацыі жанчын-футбалістак з боку FIFA гучала даволі рэдка, то ідэя поўнай перазагрузкі сусветнага футболу — стварэнне альтэрнатывы FIFA, была вельмі папулярнай.

На старонках сусветнай прэсы хапала спекуляцый наконт таго, што будзе, калі Саюз еўрапейскіх футбольных асацыяцый (UEFA), чый старшыня Мішэль Плаціні адкрыта выступаў супраць старых парадкаў, адмовіцца падпарадкоўвацца структурам Блатэра. Некаторыя СМІ раілі Плаціні як мага хутчэй анансаваць альтэрнатыўны FIFA чэмпіянат свету па футболу 2018 года. На думку выдання «Die Welt», ініцыятыву з альтэрнатыўным Кубкам Свету мусіла абавязкова падтрымаць Паўднёвая Амерыка. Пры такіх раскладах, маўляў, выканкам FIFA апынецца ў бязвыхадным стане і будзе вымушаны пагадзіцца на рэформы.

У выніку масіраванай медыяатакі Блатэр выкінуў белы сцяг. 2 чэрвеня ён падаў у адстаўку, адчыніўшы шлях аматарам рэформаў. Цяпер грамадскасць турбуюць іншыя пытанні: як будзе выглядаць сусветная футбольная кухня і ці будзе яна сапраўды альтэрнатывай FIFA?

**NF-Board часам праводзіць свае турніры. У 2012 годзе пераможцам галоўнага турніра — кубку VIVA — стала зборная Іракскага Курдыстана**

Перш за ўсё, трэба ўзгадаць, што на цяперашні момант у свеце існуюць прыблізна пяць структур, якія арганізоўваюць міжнародныя футбольныя спаборніцтвы аўтаномна ад FIFA. Перш за ўсё, у свеце дзейнічаюць рэгіянальныя асацыяцыі, якія праводзяць свае спаборніцтвы па-за рамкамі FIFA і яе чальцоў — нацыянальных федэрацый. Напрыклад, з 1956 года існуе Міжнародная асацыяцыя астраўных гульняў (IGA), што арганізоўвае Астраўныя гульні, у праграме якіх ёсць і футбол.

Па-другое, існуе шмат наднацыянальных арганізацый, якія намагаюцца арганізоўваць турніры для футбольных федэрацый непрызнаных краін або аўтаноміяй. Свае трафеі разыгрываюць народы, якія не маюць дзяржаўнасці, аднак маюць пры гэтым свае футбольныя лігі і кубкавыя турніры. Ёсць, нарэшце, абсалютна экзатычныя аналагі FIFA. Напрыклад, існуе сусветная міжнародная федэрацыя, што арганізоўвае міжнародныя турніры для каманд, гульцы якіх размаўляюць на мове эсперанта.

Найбольш заўважны сярод альтэрнатыўных FIFA футбольных цэнтраў ёсць сетка NF-Board, якая аб'ядноўвае футбалістаў з непрызнаных дзяржаў і народаў, што не маюць дзяржаўнасці. Сярод сяброў NF-Board такія незвычайныя суб'екты, як Каралеўства Абодвух Сіцылій, Рым, Аквітанія, Паданія, Тыбет, Ічкерыя, Лапландыя і г.д. Нягледзячы на матэрыяльныя праблемы, NF-Board умудраецца часам праводзіць свае турніры, і ў тым ліку галоўны турнір — VIVA кубак, апошнім уладальнікам якога ў 2012 годзе стала зборная Іракскага Курдыстана.

Аналізуючы феномен альтэрнатыўных FIFA цэнтраў, адразу кідаецца ў вочы той факт, што яны пабудаваныя па аматарскім прынцыпе. Аднак наўрад ці апаненты Блатэра пойдуць так далёка, каб разбураць інфраструктуру прафесійнага футболу. Незадаволенне FIFA не выходзіць за межы крытыкі асобных персанажаў, якія, быццам, вінаватыя ва ўсіх негатыўных з'явах у цяперашнім футболе. Пры гэтым забываюць, што Мішэль Плаціні — галоўны «барацьбіт» за празрыстасць і дэмакратыю — таксама падазраваўся ў карупцыі. У мінулым годзе аўтарытэтнае брытанскае выданне «The Telegraph» на сваіх старонках паведамляла, што прэзідэнт УЕФА быў замешаны ў скандале з прадстаўленнем Катару права правядзення чэмпіянату свету 2022 года.

У гэтым плане існуе рэальны сцэнар таго, што перастаноўкі ў апараце FIFA могуць адчыніць шлях камерцыялізацыі сусветнага футболу. З гэтым згодны кіеўскі спартыўны журналіст Аляксандр Разенвайн, які пракаментаваў для «Новага Часу» навіны са штаб-кватэры FIFA:

— Наўрад ці многія з нас усведамляюць веліч моманту, але на нашых вачах, памірае футбол. Так, памірае канчаткова і беззваротна. І няма ў гэтым нічога нечаканага, бо ён хворы даўно і цяжка. Яго ліхаманіла трапічным вірусам легіянераў (вынікам стала атрафія нацыянальных і гарадскіх футбольных традыцый), яго агонію паскорылі банды футбольных хуліганаў-нацыстаў. Адстаўка кіраўніка FIFA Блатэра стала нават не каталізатарам працэсаў, а візітам магільшчыка. З улікам таго, як планамерна атакавалі Блатэра ў прэсе, падазраю, што за гэтым стаіць буйны, і перш за ўсё амерыканскі спартыўны бізнес. Амерыканцы даўно прыцэньваліся, купляючы клубы ў Брытаніі і Італіі, стварылі сваю Лігу, правялі пару годных выступленняў на сусветных першынствах. Але яны не дадуць футболу другое жыццё — яны зробяць з яго пудзіла з назвай «Сокер», і ўставяць у лінейку спартыўнага інтэртэйнмента недзе паміж бейсболам і той штукай, якую прывыклі называць «футбол».

Застаецца дадаць, што будучыя перамены ў футболе зноў уздымуць тэму правамоцнасці Расіі праводзяць чэмпіянат свету ў 2018 годзе. Шмат апанентаў Блатэра падазравалі, што пры вызначэнні Расіі як краіны — гаспадара турніру таксама не абышлося без хабару.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Новыя варыянты ўзаемадзеяння РБ і ЕС абмяркоўваюцца, таму што ранейшымі не задаволеныя абодва бакі. Танальнасць у адносінах змянілася ў сувязі са зрухамі ва ўспрыманні Беларусі Еўрасаюзам, а таксама з-за геапалітычнай абстаноўкі ў рэгіёне, якая таксама змянілася. Беларусь — адзіная краіна-ўдзельніца «Усходняга партнёрства», дзе няма тэрытарыяльных спрэчак і канфліктаў з суседзямі. Разам з тым дыялог не значыць, што ЕС пакінуў убаку праблемы з правамі чалавека ў Беларусі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Не варта чакаць нейкай імклівай беларусізацыі і пераўтварэння Беларусі ў беларускамоўную краіну. Але цалкам рэальны кіеўскі варыянт. Украінская сталіца яшчэ 20 гадоў таму была адназначна рускамоўнай, зараз Кіеў двухмоўны, з перавагай рускай мовы ў размовах, але ўкраінскай у надпісах, афіцыйных дакументах, адукацыі. Зараз Мінск у тым месцы, у якім быў у моўным пытанні Кіеў у 1995 годзе, на пачатку шляху незаўважнай беларусізацыі. Для турыста з Украіны Мінск можа зрабіць уражанне горада цалкам русіфікаванага, як Данецк. Але на самай справе ў параўнанні з 2010 годам шмат што змянілася. Рускамоўныя мінчане ўжо не рэагуюць нервова на беларускую мову, наадварот, распаўсюджаная справа: «Сам не кажу на мове, але люблю яе і падтрымліваю». Беларуская мова становіцца моднай — і гэта не толькі сярод моладзі або інтэлектуалаў. Што будзе далей — пакажа час.

**«Главный регион» (Украіна)**

Расія ў найбліжэйшай будучыні хутчэй узмоцніць эканамічны націск на Мінск. Гэтую тактыку Маскве даводзілася ўжываць ужо неаднаразова. У пачатку 2000-х Расія прыпыніла транспарціроўку газу ў Беларусь, каб зрабіць ціск на ўрад Лукашэнкі. У 2010 і 2011 гадах Крэмль спыніў пастаўкі нафты са скідкай і прыгразіў зноў звярнуцца да такіх мер у 2013 годзе. У мінулым годзе Масква заблакавала істотную частку харчовага экспарту ў памеры 4,5 мільярда долараў. Беларусы апынуліся ў бязвыхаднай сітуацыі. Калі Лукашэнка пойдзе на саступкі Крамлю, то ў гэтым выпадку Беларусь можа зноў, як у савецкія часы, ператварыцца ў памежную тэрыторыю Расіі. Калі ж Лукашэнка паспрабуе дыверсіфікаваць сваю знешнюю палітыку і завесці новых сяброў у Еўропе, то ад Крамля варта чакаць вельмі жорсткай рэакцыі. І тое, і іншае ўяўляе пагрозу для незалежнасці Беларусі.

**«Guardian» (Вялікабрытанія)**

«Лукашэнка ніколі не стане Вацлавам Гавэлам, — кажа дзяржсакратар МЗС Латвіі, маючы на ўвазе чэшскага прэзідэнта-рэфарматара. — Але ён і не Мілошавіч». Аднак крытыкі такога падыходу асцерагаюцца, што пацяпленне ў адносінах з Захадам не прымусіць Лукашэнку мякчэй ставіцца да ўнутранай апазіцыі, а саму сітуацыю ён можа выкарыстоўваць толькі для таго, каб атрымаць больш выгадныя пазіцыі на перамовах з Расіяй. Беларуская чыноўнікі, у сваю чаргу, не адмаўляюць, што Еўропа не зможа замяніць Мінску Маскву, і Беларусь у любым выпадку застанецца цесна звязаная з Расіяй. І таму яны запэўніваюць, што нармальныя адносіны Мінска з Еўрапейскім саюзам не павінны насцярожваць Маскву. Беларуская апазіцыя, у сваю чаргу, запэўнівае: чым больш еўрапейскіх каштоўнасцяў будзе ў беларусаў, тым больш дэмакратыі будзе ў краіне.

**«Washington Post» (ЗША)**

Беларуская дэлегацыя зарэгістравалася на рыжскім саміце самай апошняй, 20 мая, а Аляксандр Рыгоравіч застаўся дома. Чаму? Таму што прыезд у Рыгу быў бы сімвалічным пераходам Лукашэнкі на бок Захаду. Гэта можна было б прадставіць як велічэзную перамогу Захаду над Расіяй. Гэта, дарэчы, магло б стаць на наступным этапе і падставай, з аднаго боку, для легітымацыі будучых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, а з другога — магло б стаць гэтак жа падставай для дэстабілізацыі Беларусі па ўкраінскім сцэнары. Лукашэнка не ўцягнуўся, інтуіцыя спрацавала.

**«Укррудпром» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Ці трэба шукаць кантакты з атаманамі?

Як вядома, 23 мая на Данбасе быў забіты адзін з лідараў сепаратыстаў, палявы камандзір Алесь Мазгавы, кіраўнік атрада «Прывід», нефармальны мэр Алчэўска. Версій забойстваў шмат, аднак большасць схіляюцца да маскоўскага следу: Мазгавы адмаўляўся падпарадкавацца кіраўніцтву Луганскай Народнай Рэспублікі. Мазгавы быў, безумоўна, культавай асобай сярод сепаратыстаў, асабліва яе левай фракцыі. Аднак праз месяц пасля смерці палявога камандзіра «Украінская праўда» — адно з самых аўтарытэтных дэмакратычных СМІ Украіны — заклікала перагледзець падыходы да Мазгавога. Аўтар публікацыі, Аляксандр Крамарэнка, звяртае ўвагу на тое, што Мазгавы паходзіць з сям'і запарожскіх казакоў, ён вучыўся ва ўкраінскамоўнай школе, быў вядомы як выканаўца і нават аўтар вельмі вядомых украінскіх песняў. Паводле аўтара, менавіта казацкія гены шмат у чым дазволілі Мазгавому хутка стварыць адно з самых эфектыўных вайсковых фармаванняў на Усходзе, якія пры гэтым не былі пад кантролем Масквы. Таму, па меркаванні Крамарэнкі, Кіеў павінен шукаць кантакты з падобнымі да Мазгавога атаманамі, паколькі яны не падпарадкоўваюцца прамаскоўскім структурам ДНР і ЛНР.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Кукіз замахнуўся на срэбра

У Паўла Кукіза, які заняў трэцяя месца на прэзідэнцкіх выбарах 11 мая, яшчэ няма сваёй партыі. Аднак, калі яна з'явіцца, за яе гатовы прагаласаваць каля 20 працэнтаў палякаў. Пра гэта сведчаць вынікі апошніх апытанняў. Калі б запланаваныя на кастрычнік выбары ў Сейм адбыліся заўтра, спіс Кукіза меў бы другую па колькасці групу ў парламенце пасля фракцыі партыі «Права і справядлівасць». Дэпутацкі клуб Кукіза быў бы нават большым за групу ліберал аў ад цяперашняй уладнай «Грамадзянскай платформы», якую гатовыя падтрымаць 17 працэнтаў электарату. Такія лічбы выклікаюць шок у польскага палітыкуму, паколькі папулісцкая прырода праекту Кукіза відавочная. На большасць пытанняў Кукіз рэагуе прыступамі сентыменталізму або агрэсіі. Адзіная надзея, што Кукіз не паспее адбудаваць да восені неабходныя для ўдзелу ў выбарах мясцовыя партыйныя структуры. Ён нават дасюль вагаецца: ці трэба яму партыя? У сваім апошнім інтэрв'ю Кукіз заявіў, што касцяк яго партыі створаць беспартыйныя дэпутаты, абраныя па аднамандатных акругах, але каб такія акругі з'явіліся, патрэбныя змены ў канстытуцыі, што, у сваю чаргу, патрабуе плебісцыту.

**Паводле польскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. Зборы тайнага ўраду планеты

Усе аматары канспіралагічных тэорый, паводле якіх планетай кіруе маленькая група абраных, б'юць у набат. 10–14 чэрвеня ў аўстрыйскім горадзе Тэлфс (Telfs) пройдзе сустрэча групы Бідэльсберг. Група Бідэльсберг — гэта неафіцыйная штогадовая канферэнцыя, якая складаецца прыкладна са 130 удзельнікаў, вялікая частка якіх з'яўляюцца ўплывовымі людзьмі ў галіне палітыкі, бізнесу і банкаўскай справы, а таксама кіраўнікамі вядучых заходніх СМІ. Уваход на канферэнцыю Бідэльсберг, назва якой пайшла ад назвы гатэлю, у якім у 1954 годзе прайшла першая падобная сустрэча, толькі па асабістых запрашэннях. Калі верыць аматарам тэорыі змовы, менавіта на такіх канферэнцыях, а не на дэмакратычных выбарах, вырашаецца лёс краін і планеты. Цяжка сказаць, наколькі версіі канспіралогіі маюць рацыю, аднак у мінулым годзе сярод удзельнікаў канферэнцыі Бідэльсберг былі кіраўнік МВФ Крысціна Лафарг, сакратар NATO Андэрс Расмусен, рэдактар славутага часопісу «The Economist» і іншыя вядомыя асобы. Крытыкі тэорыі змовы кажуць, што сустрэчы Бідэльсберг — хутчэй сімвалічныя, паколькі іх фармат — не мазгавыя штурмы, а камунікацыя ў нефармальнай атмасферы.

**Паводле іспанскай прэсы**

### СІРЫЯ. Ці з'явіцца расійскі кантынгент?

У шэрагу аўтарытэтных расійскіх СМІ з'явіліся артыкулы пра неабходнасць прамой расійскай дапамогі рэжыму Башара Асада. Як вядома, у апошнія дні сітуацыя на Блізкім Усходзе пагоршылася. Фармаванні «Ісламскай дзяржавы» занялі стратэгічныя пазіцыі недалёка ад Дамаска. На думку шматлікіх экспертаў, крах Башара Асада, які 4 гады змагаецца з апазіцыяй і ісламістамі, з'яўляецца пытаннем часу, калі ён не атрымае моцную падтрымку звонку. «Падзенне Сірыі апынецца кашмарам, які на многія гады сапсуе справы на паўднёвых рубяжах Расіі. Сёння Сірыю словамі не выратуеш — патрэбна эфектыўная падтрымка», — піша «Камсамольская праўда». Каментатары, аднак, не вераць, што Масква адправіць у Сірыю вайсковы кантынгент. Усё можа абмежавацца вялікім крэдытам. Таксама ёсць думка, што істэрыка вакол Сірыі — не што іншае, як падрыхтоўка расійскага грамадства да таго, што Дамаск хутка будзе заняты сірыйскай апазіцыяй, якую падтрымліваюць амерыканцы. Быццам, такі сцэнар ёсць вынікам сочынскай сустрэчы дзяржсакратара МЗС Расіі і ЗША. Маўляў, Расія дала згоду на здачу Дамаску ў абмен на згоду Вашынгтона на федэралізацыю Украіны.

**Паводле расійскай прэсы**

# Грузія без Саакашвілі

Алег НОВІКАЎ



**Пакуль што цяжка сказаць, як прызначэнне Міхаіла Саакашвілі на пасаду адэскага губернатара і яго пераход ва ўкраінскае грамадзянства паўплываюць на грузінскі палітычны пейзаж.**

У прэсе шмат спекуляцый наконт таго, што Адэса — стартавая пляцоўка для прэм'ерства экс-прэзідэнта Грузіі, які, як вядома, адначасова з прызначэннем атрымаў украінскі пашпарт. Расійская прэса ўпісвае кадравыя пасьянсы Парашэнкі ў трывожныя трэнды вакол суседняга Прыднястроўя. Маўляў, рыхтуецца вайна на Днястры, падчас якой Саакашвілі павінен будзе трымаць стратэгічны адэскі рубеж. Папулярна версія пра тое, што мы назіраем чарговы эпізод працяглай вайны паміж Парашэнкам і Каламойскім.

Пры гэтым на перыферыі ўвагі прэсы чамусьці застаецца грузінскі палітычны працэс, у якім Саакашвілі да апошніх часоў быў адной з вядучых фігур. Нягледзячы на эміграцыю (на радзіме Міша знаходзіцца ва ўнутрыдзяржаўным вышуку па шэрагу крымінальных спраў) Саакашвілі заставаўся лідарам самай буйной апазіцыйнай партыі «Нацыянальны рух Грузіі» (НРГ). Не раз і не два па прэсе гулялі плёткі пра тое, што Саакашвілі вось-вось вернецца для арганізацыі ў Тбілісі мясцовага Майдану.

Хаця такія прагнозы аказаліся плёткамі, сама тэма вяртання Саакашвілі, прычым трыумфальнага, моцна прапісалася ў грузінскім палітычным дыскурсе. Відавочна, што глебай для падобных фантазій з'яўляецца няўстойлівы эканамічны стан (зімой ураду давялося дэвальваваць лары) і перманентныя разборкі ўнутры ўрадавай кааліцыі «Грузінская мара». Пасля зыходу адтуль шэрагу дэпутатаў і партыі дэмакратаў кааліцыя ледзь захоўвае парламенцкую большасць. У дадатак былая партыя ўлады, насуперак неаднаразовым песімістычным прагнозам, рэпрэсіям супраць лідараў, крымінальнай справе і абвяшчэння ў міжнародны вышук Міхаіла Саакашвілі, праявіла дзіўную стойкасць і здолела ацалець у вельмі не спрыяльных умовах.

Як зменіцца сітуацыя ў Грузіі пасля таго, як лідар «Нацыянальнага руху» асядзе ў Адэсе? Калі меркаваць па першых каментарах, адэскае губернатарства справакуе тэктанічныя рухі ў грузінскай палітыцы. Пры ўсіх мінусах, Саакашвілі быў нефармальным сімвалам супраціву. Акрамя таго, у яго засталіся сувязі ў цэнтральнай і мясцовай вертыкалі, сувязі з буйным бізнесам, выхады на дыпламатычныя колы. Цяпер усе гэтыя перавагі апазіцыя часткова страціла.

Перш за ўсё, нават часовы адыход Саакашвілі ад спраў на радзіме можа выклікаць разброд сярод яго аднапартыйцаў. Справа ў тым, што не будучы грамадзянінам Грузіі, Саакашвілі, паводле закону аб партыях, губляе права ўзначальваць «Нацыянальны рух». Усе каментатары пагаджаюцца, што будучая барацьба за лідарства будзе жорсткай і стварае пагрозу адзінству партыі. Праўда, шэрагі руху і так цяжка назваць стройнымі — напрыканцы мая фракцыя НРГ страціла чатырох дэпутатаў, сярод якіх быў кіраўнік выканкаму. Дысідэнты заявілі пра намер стварыць новую палітычную фармацыю. Усё гэта, натуральна, выклікае запыт на новую апазіцыю. Жадаючых пазмагацца за гэтую нішу будзе шмат. Пры гэтым новыя апазіцыянеры, у адрозненне ад Саакашвілі і яго атачэння, не будуць мець з уладай асабістых рахункаў, што пашырыць манеўр для «Грузінскай мары».

Увогуле, лідары «Грузінскай мары» каментуюць навіны з Украіны як фіяска свайго галоўнага апанента. Прэм'ер Гарыбашвілі пафасна заявіў, што «Міхаіл Саакашвілі — гэта мінулае Грузіі, і пра яго не варта часта гаварыць». Аднак ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць моманты, якія не могуць не турбаваць грузінскі рэжым. У вочы кідаюцца цікавыя дэталі прызначэння Саакашвілі, на якія звярнуў увагу ўкраінскі часопіс «Карэспандэнт».

А менавіта на тое, што 30 красавіка Саакашвілі ў інтэрв'ю азербайджанскаму тэлеканалу ANS распавёў, што адмовіўся ад віцэ-прэм'ерства ва Украіне, дадаўшы пры гэтым: «Мне прыйшлося б прыняць украінскае грамадзянства і адмовіцца ад грузінскага грамадзянства. Але я гэтага не зрабіў, я вярнуся ў Грузію, мая кар'ера належыць майму народу». Такім чынам, месяц таму Саакашвілі не думаў ні аб грамадзянстве Украіны, ні аб дзяржслужбе. Другі факт: 28 мая, за дзень да сенсацыйнага прызначэння, на першую гадавіну кадэнцыі Парашэнка даў інтэрв'ю адной з журналістак «5 каналу» і ні слова не сказаў пра новую старонку ў кар'еры Саакашвілі.

Як піша «Карэспандэнт», «ведаючы пафаснасць цяперашняга першага кіраўніка, можна не сумнявацца, што Парашэнка, плануючы прызначэнне Саакашвілі, асабіста б анансаваў гэта «сенсацыйнае прызначэнне». Але ён гэтага не зрабіў. Такім чынам, да 28 мая Парашэнка не думаў прызначаць Саакашвілі, а таксама такім жаданнем не гарэў Саакашвілі, не жадаючы прыняць украінскае грамадзянства. Гэта азначае, што Саакашвілі загадалі прыняць прапанову Парашэнкі. Гэта маглі зрабіць выключна куратары Парашэнкі і Саакашвілі са Злучаных Штатаў Амерыкі».

Калі версія выдання верная, гэта значыць, што Мішу ў Вашынгтоне прабачылі за былыя правалы і гатовыя зноў бачыць яго ў вялікай палітыцы. З улікам таго, што фактар падтрымкі Захаду важны для грузінскай палітычнай схемы, думаецца, што для «Грузінскай мары» не ўсё так бясхмарна, як спачатку падаецца.

Тым больш, што сам Саакашвілі сцвярджае, што будзе працягваць удзельнічаць у палітычным працэсе на радзіме, нават калі яго фармальна пазбавяць там грамадзянства. Па словах новага адэскага губернатара, быць палітычным актарам у Грузіі ён зможа і ў статусе неграмадзяніна, тым больш, што прэцэдэнты у сучаснай гісторыі былі. «Эдуард Шэварднадзэ не быў грамадзянінам Грузіі, калі вярнуўся кіраўніком дзяржавы, і лідар «Грузінскай мары», мільярдэр Бідзіна Іванішвілі таксама не быў грамадзянінам краіны, але іх актыўнасць ніяк не перарывалася. Так што не думаю, што ў мяне будуць праблемы на палітычным рынгу», — адзначыў Міхаіл Саакашвілі. У тым жа выступе ён таксама дадаў, што яго вяртанне адбудзецца значна хутчэй, чым думаюць некаторыя.




# Венгерскі тупік

Алег НОВІКАЎ

**У сеціве адбыўся зліў інфармацыі, які тычыцца амерыкана-венгерскіх адносін. Згодна з ім, Вашынгтон і Будапешт моцна пасварыліся.**

Гаворка пра інтэрв'ю аднаго з былых супрацоўнікаў ЦРУ па Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, які пагадзіўся на размову на ўмовах ананімнасці. Ён раскрывае прычыны ўвядзення дыпламатычных санкцый з боку ЗША да чальцоў венгерскага ўраду.

Нагадаем, што ў кастрычніку мінулага года амерыканскія ўлады пайшлі на вельмі незвычайны крок — уключылі ў чорны спіс асоб, якім забаронены ўезд на тэрыторыю ЗША, некалькіх венгерскіх чыноўнікаў і бізнесменаў, прытым што Венгрыя з'яўляецца чальцом Еўрасаюзу і NATO.

Афіцыйная версія забароны — абвінавачванні ў карупцыі. Але большасць каментатараў не паверылі гэтай версіі дзярждэпартаменту ЗША. На думку большасці экспертнай супольнасці, санкцыі былі звязаныя з інтэнсіўнымі венгерска-расійскімі кантактамі. У прыватнасці, Вашынгтон, быццам, быў вельмі здзіўлены тым, што Венгрыя тады прыпыніла на нявызначаны тэрмін рэверсныя пастаўкі газу ва Украіну, спасылаўшыся на рост аб'ёмаў спажывання ў сябе. Яшчэ раней венгерскі лідар выступіў супраць антырасійскіх санкцый, падтрымаў «Паўднёвы паток» і падпісаў дамову з Масквой на крэдыт у 10 мільярдаў еўра на будаўніцтва новых блокаў АЭС у горадзе Пакш.

Аднак, па словах супрацоўніка ЦРУ, значна больш непакоіць Белы дом імклівыя антыдэмакратычныя трэнды ў атачэнні прэм'ера Віктара Орбана. Орбан на вачах стварае аўтарытарную мадэль, якая абапіраецца на моцную антыеўрапейскую і нацыяналістычную рыторыку. Доўгі час амерыканцы разглядалі метамарфозы ў Будапешце як нейкі трэнд, выкліканы асаблівасцямі мясцовай палітычнай культуры, якая магла быць вынікам, напрыклад, старой калектыўнай траўмы ад страты венграмі паловы сваіх земляў па выніках Першай сусветнай вайны.

Аднак пасля таго, як узімку стала відавочнай перамога на парламенцкіх выбарах у Грэцыі левай кааліцыі SIRYZA, на гарызонце ўзнікла перспектыва стварэння восі Афіны—Будапешт, якая па сутнасці фармавала ўнутры ЕС новы палітычны полюс.

Асобную трывогу ў амерыканцаў выклікаў таксама рост папулярнасці венгерскай праварадыкальнай партыі «Jobbik». За апошнія гады Jobbik абышла ў сацыялагічных апытаннях сацыялістаў і стала галоўнай апазіцыйнай партыяй. Калі Орбан і яго партыя «Фідэс» усё ж мае антыкамуністычны і ліберальны бэкграўнд, то «Jobbik» — партыя, якая адкрыта адмаўляе дэмакратычныя інстытуты, культывуе аўтарытарны прагітлераўскі рэжым адмірала Хорці (1919–1944). Нарэшце, лідары «Jobbik» нават не хаваюць, што маюць адкрытую крэдытную лінію ў Маскве.

Прычым палітычны дыскурс правых радыкалаў паступова захоплівае розумы актыву «Фідэс». Напрыклад, Орбан не выступіў супраць узвядзення помніка Хорці. Ён не супраць, калі яго публічна называюць венгерскі Чавес. Эксперты адзначаюць, што рыторыка Орбана пра стопрацэнтую занятасць насельніцтва, неабходнасць кантролю над медыя, вельмі нагадвае ход думак часоў Кадара. У атачэнні Орбана ўсё больш былых чыноўнікаў камуністычнага ўраду.

Пра распаўсюд у Венгрыі аўтарытарных канцэпцый сведчыць і незвычайны дэмарш Віктара Орбана, які прапанаваў вярнуць у мясцовае заканадаўства артыкул пра смяротнае пакаранне, якое было забаронена ў краіне ў 1990 годзе. Ад сваёй ідэі Орбан адмовіўся толькі пасля таго, як прэзідэнт Еўракамісіі Жан-Клод Юнкер пригразіў Венгрыі выключэннем з Еўрасаюза выпадку ўвядзення смяротнага пакарання ў краіне.

Апошняй кропляй стала палітыка Будапешта ў энергетычным пытанні. Орбан выступае супраць таго, каб Еўрасаюз шукаў замену «Газпрому», напрыклад, у выглядзе амерыканскага сланцавага газу. Венгрыя намагалася заблакаваць будаўніцтва ў суседняй Харватыі тэрміналаў, якія могуць прымаць амерыканскія караблі з газам. Такі праект цалкам ліквідаваў бы манаполію Расіі на пастаўкі газу ва Усходнюю Еўропу. Акрамя таго Венгрыя актыўна гуляе на энергетычным рынку суседніх краін. Так, Будапешт мае інтарэс да набыцця славенскай электрычнай кампаніі «Slovenske elektrarne». Набыццё «Slovenske elektrarne» дазволіла б лабісту «Газпрома» пашырыць свой уплыў у рэгіёне.

Гэтай вясной адміністрацыя Орбана стала рупарам праціўнікаў стварэння аб'яднанай гандлёвай зоны паміж ЕС і ЗША. Па словах Орбана, дамова пазбаўляе нацыянальныя дзяржаўныя органы кампетэнцыі ўмешвацца ў працу гаспадарчых суб'ектаў на юрыдычна падкантрольнай ёй тэрыторыі.

Парадокс у тым, што сапраўдных інструментаў ціску на Будапешт у Вашынгтона, мяркуючы па ўсім, няма. Папулярнасць антыорбанаўскай апазіцыі вельмі нізкая, што не дзіўна з улікам манаполіі праўладных алігархаў на прэсу. Таму, калі верыць ананіму з ЦРУ, за акіянам абраны шлях пошуку кампрамату на лідараў рэжыму. З восені мінулага года пачалася праца па маніторынгу фінансавых патокаў, на якіх «сядзіць» венгерская ўлада. Праўда, Орбан, як сведчаць паказанні суразмоўцы, вельмі асцярожна працуе з фінансамі. Пры ім ёсць людзі, які выконваюць ролю нефармальных скарбнікаў.

Яшчэ адным інструментам у барацьбе з Орбанам з'яўляецца дыпламатычны ціск з боку краін ЕС. Дыпламатычная блакада плюс выкрыццё карупцыйных схемаў палітыкаў, па словах інтэрв'юера, дапамогуць да канца года цалкам змяніць сітуацыю ў Венгрыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эмамалі Рахмон



Прэзідэнт Таджыкістана атрымаў асабістага ворага ў выглядзе былога камандзіра таджыкскага АМАПу Гулмурода Халімава. 40-гадовы Халімаў прыкладна месяц таму збег з краіны і праз Турцыю дабраўся да тэрыторыі, якую кантралююць экстрэмісты «Ісламскай дзяржавы» (ІД). Ён запісаў відэазварот да суайчыннікаў, у якім заклікаў да паўстання супраць Рахмона. Пасланне выклікала сапраўдны шок сярод чыноўнікаў, паколькі частку звароту аўтар адрасаваў сваім былым калегам па МУС. Незадаволеная ўладай Рахмона частка таджыкскага грамадства адразу зрабіла з Халімава куміра. Калі верыць прэсе, папулярнасць уцекача перакрочыла межы Таджыкістану,ператварыўшы яго ў лідара для ўсіх радыкалаў Сярэдняй Азіі. Цяпер усе чакаюць, як улада будзе рэагаваць на Халікамава. Эксперты баяцца, што нязграбная вертыкаль можа расправіцца з роднымі ўцекача, што яшчэ больш уздыме яго рэйтынг. Рахмону раяць правесці праз спецслужбы аперацыю па ліквідацыі джыхадзіста. Праўда, наступствы такога забойства таксама спрэчныя. Аўтарытарны стыль таджыкскай улады стабільна штурхае частку расчараванай моладзі ў абдымкі экстрэмістаў. На цяперашні дзень у складзе ІД змагаецца каля 400 таджыкаў.

### Крыстаф Блохер



Мільярдэр і адзін з лідараў Швейцарскай народнай партыі (SVP) прыдумаў незвычайны піярны ход напярэдадні парламенцкіх выбараў. У цэнтры выбарчай кампаніі (SVP) знаходзіцца правядзенне маштабных тэатралізаваных шоу, прысвечаных серыі важных падзей у швейцарскай гісторыі — Бітве пры Маргартэне (1315), Бітве пад Марыньяна (1515) і Венскаму кангрэсу (1815). Рэалізацыя задуманага на справе абярнулася ростам інтарэсу грамадства да згаданых падзей. Прычым у рамках дэбатаў гісторыкаў шматлікія швейцарскія міфы, на якіх правыя партыя намагаюцца набіраць электаральныя балы, сталі выглядаць вельмі неадназначна. Напрыклад, гісторыкі прызналі, што не ведаюць, дзе была бітва пры Маргартэне, і ўвогуле, ці была такая бітва. Шмат хто лічыць, што гэта была сутычка рыцараў з сялянамі, якія абрабавалі нейкі манастыр. У бітве пад Марыньяна швейцарцы як наёмнікі змагаліся на кожным баку. Што тычыцца Венскага кангрэсу, гэта падзея выглядае як навязванне буйнымі дзяржавамі сваёй волі швейцарцам (прынамсі, сучаснікі разглядалі гэта так). Застаецца дачакацца вынікаў выбараў, каб даведацца, наколькі гістарычныя карнавалы могуць быць інструментам у выбарчай барацьбе.

### Рык Санторум



Былы амерыканскі сенатар-рэспубліканец заявіў пра намер балатавацца на пасаду кандыдата ад рэспубліканцаў на прэзідэнцкіх выбарах 2016 года. Нагадаем, што ў 2012 годзе Рык Санторум ужо ўдзельнічаў у праймерыз, аднак беспаспяхова. Самае цікавае, што палітык, які вядомы сваімі кансерватыўнымі поглядамі, ідзе на выбары пад лозунгам абароны інтарэсаў рабочых і іх сямей. «Рабочым сем'ям не патрэбны прэзідэнт, які звязаны з буйным бізнесам», — кажа Санторум, які, дарэчы, сам паходзіць з рабочай сям'і. Кандыдатура Санторума цікавая, паколькі на цяперашні момант гэта адзіны католік, які вырашыў увязацца ў гонку за прэзідэнцтва. Прычым Санторум належыць да фундаментальнай фракцыі амерыканскага касцёла, якая рашуча выступае супраць любых саступак гомасексуалістам. Застаецца сказаць, што Санторум вядомы як крытык знешняй палітыкі Абамы. Асабліва яму не падабаецца курс ЗША на Блізкім Усходзе. «Калі хлопцы з «Ісламскай дзяржавы» мараць жыць, як у сёмым стагоддзі, давайце нашымі бамбардзіроўшчыкамі загонім іх у гэта стагоддзе», — кажа кандыдат.

# Вячка Целеш, князь вечнай Беларусі



Сяргей ШАПРАН

**Васіль Быкаў дзякаваў яму за беларускасць, а Уладзімір Караткевіч жадаў цвёрда трымаць плацдарм у Прыбалтыцы. На мінулым тыдні пры садзейнічанні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і выдавецтва «Беларусь» Вячка Целеш, беларускі мастак і філакартыст, які ўжо больш за паўстагоддзя жыве ў Рызе, прэзентаваў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі альбом «Гарады Беларусі на старых паштоўках» і манаграфію «Адсюль наш род, тут мой прычал».**

### «Тут мой прычал»

Вячка Целеш нарадзіўся ў мястэчку Краснасельскі Гродзенскага ваяводства. Па заканчэнні школы спрабаваў паступіць у Мінскае мастацкае вучылішча, але безвынікова, бо ніякай спецыяльнай падрыхтоўкі ў вясковага хлопца не было. Працаваў слесарам, а затым, паслухаўшыся парады сябра, пераехаў у Латвію. Пасля былі гады няўдач, бо Целеш спрабаваў паступіць у Яраслаўскае мастацкае вучылішча, потым у Вільнюскі і Мінскі мастацкія інстытуты. Латвійскую Акадэмію мастацтваў ён таксама пакараў неаднойчы, і нарэшце паступіў — з чацвёртага разу...

Сёння працы Вячкі Целеша захоўваюцца ў музеях і прыватных зборах у Беларусі, Даніі, ЗША, Ізраіля, Канады, Кітая, Латвії, Партугаліі, Расіі, Румыніі, Францыі, Чэхіі, Швейцарыі. Сярод яго жывапісных прац партрэты Максіма Багдановіча, Францыска Скарыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Зоські Верас, Ларысы Геніюш. Зрэшты, яшчэ пры жыцці Ларысы Антонаўны спадар Вячка абяцаў зрабіць ёй экслібрыс — прасніцу і беларускі нацыянальны касцюм, як хацела таго паэтка, але — не паспеў.

### Ларыса Геніюш

Госцем апальнай паэткі Целеш быў двойчы ў сярэдзіне 1970-х гадоў. Ларыса Антонаўна паказвала сваю бібліятэку і паштоўкі з краявідамі Беларусі, якія былі выдадзены падчас Другой сусветнай вайны ў Празе. Распавядала пра ГУЛАГ і чытала вершы.

«Наогул кажучы, людзей, якія думалі б пра Бацькаўшчыну, у той час было не так ужо шмат, і усе яны ведалі адзін аднаго, — кажа Вячка Целеш. — Сустрэчы з імі давалі не толькі вялікую энергію, але і спадзяванні на тое, што ўсё ў Беларусі некалі наладзіцца. Шкада, вядома, што Ларыса Антонаўна не дажыла да таго часу, калі ў першай палове 1990-х Беларусь зноў пачала жыць пад бел-чырвона-белым сцягам. Часам я прыгадваю тыя гады і разумею, што гэта быў сапраўды шчаслівы час».

У Целеша дасюль захоўваюцца лісты Геніюш, у адным з іх паэтка пісала: «Часам гаворым з мужам, што ёсць ахова раслін і жывёл, але чаму няма аховы паэтаў? Вось усё гэта і спала на сэрца. Я добра ведаю сабе цану, прытым, залежыць мне на асабістай годнасці і годнасці нашага народу хоць бы тут, на зямлі дзядоў нашых. Таму нам удвая цяжка. Нейкая тут пераацэнка вартасцяў, прытым, маральныя вартасці чалавека — не ў лік! Трэба мець гнуткі хрыбет, яшчэ болей гнуткую душу, ну, і зусім падайны на ўсё язык. У мяне так не атрымоўваецца, бо вартасці — ёсць вартасці, а ўсё таннае, часовае ды мала чалавечае не для мяне. Не магу знайсці ў гэтых лозунгах дня ніякага грунту! Засталіся адна прырода і чатыры поры году як перамены майго наваколля, успаміны крыху, муж побач і недзе далёка ўнукі».

### Уладзімір Караткевіч

Яшчэ падчас вучобы ў акадэміі беларускія мастакі распавялі Целешу пра полацкага князя Вячку, даніну якому плацілі ўсе, хто жыў уздоўж Даўгавы. Вячкам жа Вячаслава Міхайлавіча Целеша «ахрысціў» яго сябар, мастак Яўген Кулік. Гэтаксама і Уладзімір Караткевіч гаварыў: «Ты ж Вячаслаў і, значыць, Вячка, а не Слава!» І наказваў, каб Вячка стаяў у Латвіі на рубяжы беларускасці.

З Караткевічам Целеш пазнаёміўся ў 1976 годзе. Прыязджаючы ў Латвію, Уладзімір Сямёнавіч звычайна спыняўся ў Доме адпачынку Саюза пісьменнікаў у Дубултах. Быў госцем і Целешавай «Беларускай хаткі», як называлі яго майстэрню. Да 50-годдзя Караткевіча Целеш зрабіў экслібрыс: побач са шчытом з выявай «Пагоні» намаляваў рыцарскія даспехі, фонам жа стаў Гродзенскі замак, бо мастак дужа захапляўся тады раманам «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Караткевіч экслібрысам застаўся задаволены, пісаў з гэтай нагоды ў адным з лістоў: «Работаць апошнія дні не мог і таму клею экслібрысы. Іх у мяне розных ёсць, але твой найбольш настраёвы і найбольш адпавядае майму характару. І клею я яго на свае кнігі (акрамя лірыкі) і на творы гісторыкаў пра Беларусь і на найлепшыя кнігі аб мастацтве Вялікага княства, і на творы Купалы (у прыватнасці на першае выданне «Жалейкі»). І... не хапіла. Ёсць яшчэ шмат кніг, на якія ён так і просіцца: у прыватнасці на Вальтэра Скота, Ірасека, на дакладна капіяваныя (ну, дакладна паўтараюць першадрук) выданні Каханоўскага. Нязручна мне цыганіць, браце, але хацелася б вытрымаць марку да канца. Ці нельга зрабіць яшчэ хаця б сотню копій (калі нельга, то і меней, тады буду клеіць толькі на самыя выдатныя)? Калі можна — зрабі гэта, калі ласка...»



Віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра Карлас Шэрман віншуе Вячку Целеша з атрыманнем прэміі імя Ф. Багушэвіча. Фота Сяргея Шапрана



Мінск, 2000 год. Разам з Рыгорам Барадуліным. Фота Сяргея Шапрана

У апошні прыезд у Рыгу Караткевіч разам з жонкай Валянцінай, Вячкам Целешам і паэтамі Сяргеем Панізнікам і Алегам Лойкам наведалі Музей этнаграфіі, пасля завіталі ў «Беларускую хатку», дзе Караткевіч у агромністым сшытку для ганаровых гасцей намаляваў сябе і жонку і напісаў:

*З майстэрні мілай пана Вячка*
*Паўзлі мы ледзь не на карачках.*
*І дух наш ледзь трымаўся ў целе,*
*Калі дамоў пусціў нас Целеш.*

І, намаляваўшы гасціннага гаспадара, занатаваў такія радкі:

*Прыйшоў у Краснае сяло,*
*Дзе даўніх шахтаў веле,*
*І аж дыханне заняло:*
*Тут з шахтаў вылез Целеш.*

Увогуле, аўтографы ў гэтай кнізе пакінулі шмат якія славутыя беларусы: Анатоль Вярцінскі, Мікола Купава, Алег Лойка, Аляксей Марачкін, Зянон Пазьняк, Сяргей Панізнік, Стэфанія Станюта, Кастусь Тарасаў, Леанід Шчамялёў, Яўген Кулік. Ёсць і верш Рыгора Барадуліна:

*Пакуль ты, думка, слова целіш,*
*Куфэрка славы ўзняўшы вечка,*
*Для вечнасці*
*Шчырэе Целеш —*
*Князь вечнай Беларусі —*
*Вячка!*

Ужо ў гэты прыезд у Беларусь гаспадар унікальнага сшытка перадаў яго на пастаяннае захоўванне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Без перабольшвання найкаштоўнейшы падарунак.

### Зніклая Беларусь

Караткевіч, убачыўшы калекцыю старых паштовак Целеша, распавёў пра гэта сябру Адаму Мальдзісу, які і «сасватаў» Целеша ў беларускае выдавецтва, каб выдаць альбом «Мінск на старых паштоўках». Праўда, ягоны лёс быў найскладнейшы — Целеша неаднойчы выклікалі ў ЦК кампартыі, і ў выніку з выдання былі выкінуты ўсе выявы культавых пабудоў: цэрквау, касцёлаў, сінагог, татарскай мячэці і лютаранскай кірхі. Аднак пасля пра незвычайную кнігу напісала нават усесаюзная газета «Известия» — маўляў, беларусы ўсіх апярэдзілі. І аналагічныя альбомы пачалі выходзіць у Маскве, Ленінградзе, Кіеве...

Паштоўкі Целеш пачаў збіраць яшчэ ў школе — віншавальныя і з рэпрадукцыямі карцін. Ужо падчас вучобы ў Акадэміі мастацтваў захапіўся паштоўкамі з выявамі Рыгі, покуль ягоны сябар, беларускі краязнаўца і калекцыянер Міхась Вераціла не запытаўся: «А чаму ты не збіраеш паштоўкі пра Беларусь?» З гэтага пытання і пачалося яго новае захапленне. Прычым на гэтую справу часам ішлі апошнія грошы. «Здаралася, што не паясі, але паштоўку набудзеш!» — прыгадваў ён.

Зрэшты, Целеш не проста займаўся філакартыяй — ён дасылаваў паштоўкі, дзеля чаго мэтанакіравана ездзіў у бібліятэкі Масквы і Ленінграда. У выніку з'явіўся камплект паштовак «Рыга на старых паштоўках», а пасля, у 1991 годзе, і альбом. Пасля ж кнігі «Мінск на старых паштоўках» была яшчэ больш грунтоўная праца — «Гарады Беларусі на старых паштоўках», за якую аўтар у 2000 годзе быў узнагароджаны прэміяй імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра. Трохтысячны наклад унікальнага альбома хутка разышоўся, і цяперашняе выданне — чацвёртае.

### Маю гонар!

На пачатку 1990-х гадоў Целеш быў адным з ініцыятараў стварэння таварыства мастакоў-беларусаў Балтыйскага рэгіёна «Маю гонар». Ён прыгадваў: «У нашым таварыстве сабраліся людзі, якія былі аб'яднаныя нацыянальнай ідэяй: мы не проста мастакі, мы — беларускія мастакі. Хоць сам я раней не ведаў ні беларускай гісторыі, ні беларускай мовы. Аднак падчас вучобы ў акадэміі пачаў звяртаць увагу на тое, якое ўважлівае стаўленне да сваёй культуры і мовы панавала сярод латышоў. Тады і задумаўся: хто ж я такі? Паводле пашпарта — беларус. У выніку пачаў купляць беларускія кнігі і выпісваць беларускія газеты. Зноў жа вялікі ўплыў здзейснілі на мяне Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін, якія неадночы былі гасцямі маёй майстэрні...»

У 1994 годзе Целеш быў ініцыятарам стварэння першай беларускай школы ў Рызе і сем гадоў пасля быў яе дырэктарам. Ён жа спрычыніўся да ўтварэння ў Латвіі Таварыства беларускай культуры «Сьвітанак», дзякуючы чаму пэўны час пасля быў сябрам кансультацыйнай рады пры латвійскім прэзідэнце Гунтысу Улманісу.

Яго імя ўжо не адно дзесяцігоддзе добра вядомае далёка за межамі Латвіі. Невыпадкова калі я аднойчы папрасіў Васіля Быкава падпісаць кнігу для яго, Васіль Уладзіміравіч напісаў: «Вячку Целешу — з удзячнасцю за беларускасць». А латышскі пісьменнік Айвар Калве назваў яго «амбасадарам Беларусі ў Латвіі». Фактычна гэта было прызнана і самой латвійскай дзяржавай: у 1997 годзе за асаблівыя заслугі Вячка Целеш быў узнагароджаны латвійскім грамадзянствам, а ў 2006-м атрымаў найвышэйшую ўзнагароду Латвійскай Рэспублікі — Ордэн Трох Зорак.

Што ж тычыцца яго ўнікальнай калекцыі паштовак, дык рыжскую яе частку Целеш пачаў даўно мяняць на беларускія паштоўкі, а некалькі гадоў таму ўвогуле прадаў. Беларуская ж частка павінна будзе, па яго словах, вярнуцца ў Беларусь, бо з'яўляецца спадчынай беларусаў. А пакуль яна, гэтая спадчына, ужо трыццаць гадоў вяртаецца на радзіму ў выглядзе кніг. І перадусім — дзякуючы яе неўтаймаванаму гаспадару Вячку Целешу, «князю вечнай Беларусі».

# Савінкаў. Канец рускага тэрарыста

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Усе ведаюць, хто такі Барыс Віктаравіч Савінкаў. А дзякуючы кінафільму «Трэст» ведаюць і пра аперацыю чэкістаў, праз якую ў 1924 годзе заманілі Савінкава ў СССР. Аднак мала хто ведае, што пераходзіў ён мяжу пад Заслаўем.**


Барыс Савінкаў


Ян Крыкман


1924 год. Судовы працэс над Савінкавым

## Пачатак

Выпускнік варшаўскай гімназіі, студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта. Здавалася, што перад ім адчыняюцца магчымасці някепскай кар'еры... Аднак з універсітэта Савінкава выключылі за антыўрадавую дзейнасць. Пазней арыштавалі за рэвалюцыйную дзейнасць.

Пасля былі «Баявая арганізацыя», тэракты, забойствы, рэвалюцыя, барацьба супраць бальшавікоў, якая прывяла яго ў Варшаву. Там ён стварыў Рускі палітычны камітэт, а таксама садзейнічаў фарміраванню арміі Станіслава Булак-Балаховіча.

Пасля падпісання мірнай дамовы ў Рызе бальшавікі патрабавалі ад Пілсудскага выслаць Савінкава з Польшчы. Таму ён з'ехаў з Польшчы. Летам 1922 года для наладжвання сувязі са сваімі паплечнікамі Савінкаў накіраваў з Парыжу ў савецкую Расію свайго ад'ютанта Леаніда Шашэню. Аднак пры пераходзе савецка-польскай мяжы яго затрымалі савецкія пamежнікі. На допыце ў АДПУ з затрыманага выбілі імёны агентаў. Хутка адзін з іх, Міхаіл Зекуноў, а таксама сам Шашэня, пагадзіліся на супрацу з савецкімі спецслужбамі.

## Сіндыкат–2

Па заданні АДПУ Зекуноў прыехаў у Вільню да аднаго з дзеячаў «Народнага саюза абароны радзімы і свабоды» Івана Фамічова з інфармацыяй пра тое, што Шашэня «выйшаў на сувязь з вялікай і моцнай антысавецкай групай у Маскве». Гэтай інфармацыі хапіла, каб ёй зацікавіліся савінкаўцы. Яны яшчэ верылі, што ў СССР маглі захавацца тыя, хто ўсур'ёз змагаўся супраць савецкай улады.

З гэтага моманту пачалася праца над «вывадам рускага тэрарыста №1» і аднаго з галоўных антысаветчыкаў на тэрыторыю СССР. За рэалізацыю гэтага этапу аперацыі «Сіндыкат–2» (менавіта так называлася аператыўная гульня, распрацаваная АДПУ для знішчэння савінкаўскага антысавецкага падполля) адказваў контрвыведвальны аддзел (КРА) АДПУ пад кіраўніцтвам Артура Артузава. У аперацыі былі задзейнічаны намеснік начальніка КРА Раман Піляр, памочнік упаўнаважанага КРА паўнамоцнага прадстаўніцтва па Заходняму краю АДПУ Ян Крыкман і іншыя.

Бальшавікам удалося закінуць у савінкаўскае атачэнне свайго аператыўнага супрацоўніка Андрэя Фёдарава, які выконваў ролю прадстаўніка маскоўскай антысавецкай арганізацыі. Чэкіст некалькі разоў быў у Вільні і Варшаве і сустракаўся там з падначаленымі Савінкава. Саветнік Юзафа Пілсудскага па «руска-ўкраінскай тэматыцы», а таксама сябар Барыса Савінкава Зміцер Філасофаў не паверыў Фёдараву і парэкамендаваў выслаць з Вільні ў Маскву Івана Фамічова. Бальшавіцкія спецорганы былі да гэтага падрыхтаваныя і падставілі сапраўдных контррэвалюцыянераў — арганізацыю «Ліберальныя дэмакраты».

## Трэба ехаць

У ліпені 1923 года чэкіст Фёдараў у Парыжы сустрэўся з Савінкавым і парэкамендаваў як мага хутчэй ехаць у Расію, каб узначаліць маскоўскую антысавецкую групу. Савінкаў не паверыў і накіраваў у Маскву свайго чалавека Сяргея Паўлоўскага. Пасля пераходу савецка-польскай мяжы ў Беларусі той сабраў атрад аднадумцаў і пачаў нападаць на бальшавіцкія органы і рабаваць банкі. Калі Паўлоўскі нарэшце прыехаў у Маскву, яго адразу арыштавала АДПУ.

Больш таго, чэкістам удалося завербаваць Паўлоўскага. З Масквы ў Парыж пайшоў ліст, у якім зноў пацвярджалася існаванне антысавецкай арганізацыі ў Маскве. Савінкаў працягваў з недаверам ставіцца да «маскоўскай антысавецкай арганізацыі», аднак пры гэтым ён баяўся страціць час і, галоўнае, уплыў на магчымых хаўруснікаў, якія заставаліся на тым баку «рыжскай мяжы».

У жніўні 1924 года Барыс Савінкаў усё ж вырашыў ехаць у савецкую Расію. У Маскве атрымалі тэлеграму: «Сёння канчаткова дамовіліся з бацькам. Бацька з пляменнікам і пляменніцай едуць адпачываць да мяне ў лецішча. Паедзем адсюль (з Парыжа) 7–8 жніўня». Савінкаў патрабаваў, каб Паўлоўскі прыехаў у французскую сталіцу і дапамог яму ў небяспечным падарожжы, аднак АДПУ прыдумала легенду пра тое, што Паўлоўкі цяжка паранены падчас адной з «экспрапрыяцый» на Поўдні Расіі. Разам з Савінкавым у СССР выехалі Аляксандр Дыгхоф-Дырэнталь, яго жонка Любоў, Іван Фамічоў і чэкіст Андрэй Фёдараў. Аднак апошні ў Вільні пакінуў групу і паабяцаў сустрэць Савінкава ўжо на тэрыторыі савецкай Беларусі.

## Акно на мяжы

Пераход мяжы адбываўся ў раёне Заслаўя. Вось як гэты момант апісвала ў сваім дзённіку Любоў Дыгхоф-Дырэнталь: «15 жніўня. На сялянскай падводзе складзеныя валізкі. Мы ідзем у след за ёй. Свеціць месяц. Ён свеціць так ярка, што можна падумаць, што гэта дзень, а не ноч, калі б не поўная цішыня. Толькі рыпяць колы. Больш ні гуку, хоць блізка вёска. Холадна. Мы прагна п'ем паветра — паветра Расіі. Расія ў некалькіх кроках ад нас, наперадзе. Мы выехалі ў Расію па патрабаванні Сяргея Паўлоўскага. Ён павінен быў прыехаць да нас у Парыж. Але ён быў паранены пры нападзе на бальшавіцкі цягнік і замест сябе прыслаў Андрэя Паўлавіча і Фамічова. Мы ідзем хутка, у поўным маўчанні.

За кожным кустом, можа быць, хаваецца памежнік, з-за кожнага дрэва можа пстрыкнуць вінтоўка. Вось злева завурушылася нешта, потым справа. І вось паўсюль. Праляцела сава. Гэта трэці перасцерагальны знак: раніцай разбілася люстэрка і сёння пятніца — дурны дзень. Мы ідзем ужо больш за гадзіну, але стомленасці няма. Мы ідзем то полем, то лесам. Мяжа ўецца. Вось у пералеску каламажка і цялега. Коні вялікія. Да Мінска нам трэба будзе зрабіць 35 вёрст. Вёска. Брэшуць сабакі. Затым палі і ап'яняльнае паветра. А ў галаве адна думка: палі — Расія, лясы — Расія, вёскі — таксама Расія. Мы — шчаслівыя. Мы ў сябе. Дарога кепская, усё ў ямах. На адным з паваротаў каламажка перакульваецца. Мы падаем. [...] 16 жніўня. Вось нарэшце мы і дома. Прыехалі. Мінск. Прыгарадныя вуліцы пустыя. Рэдкія мінакі абарочваюцца на нас, хоць у Вільні мы апрануліся па-руску. Мы спыняемся ля аднаго з дамоў на Савецкай. Тут мы адпачнем і ў вечары паедзем у Маскву».

На мяжы Савінкава сустракаў оперупаўнаважаны ДПУ па Заходняму краю Ян Крыкман. У 1922 годзе ён быў прызначаны ў 15-ты памежны атрад у Заслаўі на пасаду «каменданта зоны». Для Савінкава ён быў «Іванам Пятровічам Батавым», членам антысавецкай арганізацыі, якому ўдалося трапіць на службу ў савецкую памежную ахову.

Менавіта Крыкман адказваў за падрыхтоўку ля Заслаўя акна на мяжы для пераходу савінкаўцаў. Для базы была выбрана старая карчма ў 11 кіламетрах ад Заслаўя ў раёне Радашковічаў.

Вось як пераход на савецкі бок групы Барыса Савінкава пад Заслаўем апісваў Іван Крыкман: «У той дзень на мяжу прыехалі Пузіцкі і Дземідзенка (супрацоўнікі АДПУ — І.М.). Спыніліся ў густых кустах недалёка ад памежнага слупа. Ноч была цёмнай. Прайшла гадзіна, другая. Раптам з польскага боку замігцеў агеньчык. Побач з Мухіным (сакрэтны супрацоўнік АДПУ) стаялі Савінкаў, Любоў Дзерэнталь, яе муж і супрацоўнікі польскай выведкі Сякунда і Маер.

Пузіцкі падышоў да іх, павітаўся і сказаў, што шлях вольны. Палякі засталіся на сваім баку, а іншыя пайшлі наперад. Я падышоў да іх, казырнуў і прапанаваў усім здаць зброю, каб пазбегнуць ускладненняў. Першым аддаў свой рэвальвер Савінкаў, пазней іншыя. Фамічоў падышоў да мяне. Працягнуў руку і павітаўся. Я паклаў іх рэвальверы ў кішэні і загадаў ісці за мной. Мы яшчэ днём папярэдзілі начальніка атрада, каб той не ставіў на гэтым участку памежнікаў. Хутка мы выйшлі да схаваных коней, запрэжаных у дзве тачанкі. Каб не выклікаць падазрэння ў мясцовага насельніцтва, я прапанаваў гасцям апрануцца ў чырвонаармейскія шынялі і будзёнаўкі. Даехалі да вялікага возера ў 12 кіламетрах ад Мінска, зрабілі прывал. Паелі, селі ў тачанкі і паехалі далей».


Памежнікі 15-га Заслаўскага памежнага атрада. Пачатак 1930-х гадоў

У Мінску 16 жніўня 1924 года на канспіратыўнай кватэры па адрасу Захар'еўская, 33 усіх арыштавалі. Калі чэкісты ўвайшлі ў пакой са зброяй, Савінкаў павярнуўся да іх і сказаў: «Чыста зроблена... Дазвольце прыгнуць снядаць?» У той жа дзень усіх арыштаваных накіравалі ў Маскву, дзе наўпрост з Беларускага вакзала перавезлі ва ўнутраную турму АДПУ на Лубянцы.

## Суд

Праз тыдзень у газеце «Праўда» была змешчана кароткая заметка: «У 20-х чыслах жніўня гэтага года на тэрыторыі Савецкай Расіі АДПУ быў затрыманы грамадзянін Савінкаў Барыс Віктаравіч, адзін з самых непрымірымых і актыўных ворагаў працоўна-сялянскай Расіі (Савінкаў затрыманы з фальшывым пашпартам на імя В.І. Сцяпанава). У 23 гадзіны 23 жніўня Савінкаву было ўручана абвінаваўчае заключэнне, і па сканчэнні 72 гадзін, згодна з патрабаваннем Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, у вайсковай калегіі Вярхоўнага суда СССР пачалося слуханне яго справы».

Падчас следства Савінкаў прызнаў віну і супрацоўнічаў з чэкістамі. 29 жніўня 1924 года суд прысудзіў яго да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці, аднак пазней прысуд быў заменены на 10 гадоў зняволення. Савінкава трымалі на Лубянцы, аднак у маі 1925 года ён загінуў. Па адной з версій, сам выкінуўся з акна, па іншай — сысці з жыцця яму дапамаглі супрацоўнікі савецкай спецслужбаў. Іншыя спадарожнікі Савінкава таксама патрапілі пад рэпрэсіі.

Арышт і смерць Барыса Савінкава канчаткова паралізавалі дзейнасць «Народнага саюза абароны Радзімы і свабоды». Большасць з членаў гэтай арганізацыі былі арыштаваныя. Чэкісты, якія ўдзельнічалі ў аперацыі, і асабліва тыя, хто рыхтаваў «вывад Савінкава на савецкі бок», атрымалі ўрадавыя ўзнагароды. Аднак ужо ў 1930-я гады большасць з іх былі рэпрэсаваныя. Разам з імі пайшлі ў небыццё і ўсе тайны, звязаныя з арыштам «рускага тэрарыста №1» Барыса Савінкава.




# Народная памяць

Аляксей ЧУБАТ

**Прадстаўнікі Беларускага архіва вуснай гісторыі (БАВГ) назвалі пераможцаў конкурсу «Памяць Народа».**

Удзельнікам трэба было зняць на відэа расповед чалавека сталага веку і даслаць яго арганізатарам. Лепшыя працы атрымалі каштоўныя прызы.

Усяго на конкурс было даслана дваццаць відэа — іх можна знайсці на YouTube, набраўшы «памяць народа». Удзельнікі здымалі як родных дзядоў і бабуль, так і іншых асоб сталага веку. Найстарэйшаму чалавеку, з кім зрабілі інтэрв'ю, — 95 гадоў. Ён — сын рэпрэсавага, у вайну быў шпіёнам, а зараз добра чытае вершы па-беларуску, танчыць. Гэта відэа, дарэчы, і ўзяло прыз глядацкіх сімпатый.

На двух дзесятках відэазапісаў адбілася складаная і неадназначная гісторыя беларускага народа ў XX стагоддзі. Цэнтральнае месца ва ўспамінах адведзена Другой сусветнай вайне, а таксама жыццю «за Польшчай», паваенным гадам.

Дарэчы, першае месца атрымала відэа, на якім 84-гадовы Міхаіл Ракевіч па-мастацку цікава і глыбока апісвае свой лёс. Пасля прагляду такіх прац разумееш, што гісторыя вайны можа быць іншай — гуманнай, скіраванай на яднанне людзей, а не на культываванне варожасці.

Гісторыя змагання прыхаджан заняла трэцяе месца. Відэа дае нязвыклае ўяўленне пра савецкую гісторыю: вяскоўцы здолелі адстаяць свой храм ад знішчэння, і ўладам прыйшлося з імі нават дамаўляцца.

Па словах ініцыятара конкурсу Яўгена Бойкі, падрыхтоўка да яго заняла два месяцы, а сам конкурс доўжыўся з лютага па май.

«Няма ў нас у сям'і традыцыі проста так распавядаць. Каб маладыя людзі не пайшлі і не запісалі відэа, дык старыя і маўчалі б. Няхай гэты конкурс у памерах Беларусі — драбніца, але такія рэчы трэба рабіць, таму што так беларусы лепш спасцігаюць не толькі гісторыю рода, але і прыгажосць усёй нашай спадчыны», — адзначыў эксперт конкурсу, доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук.

# Прэмія Гедройца

Аляксей ХАДЫКА

**Першую ўзнагароду прэміі Ежы Гедройца (і 10 тысяч еўра) за зборнік апавесцяў «Час збіраць косці» атрымаў Віктар Казько.**

Цікава, што тэксты зборніка пісаліся яшчэ ў 1990-я гады і да 2014-га чакалі часу быць надрукаванымі.

Другое месца, з правам перакладу кнігі на польскую мову або творчай стыпендыі ў Вісбю (Швецыя) дасталася Таццяне Барысік за кнігу «Жанчына і леапард». Альгерд Бахарэвіч і яго «Дзеці Аліндаркі» атрымаў трэцяе месца і магчымасць паездкі ў латышскі Вентспілс.

Дарэчы, прысутная на цырымоніі публіка горача ўхваліла экспертнае рашэнне. Між тым, напярэдадні конкурсу на сайце прэміі ішла гарачая палеміка, паколькі апрача галасавання журы на выніку конкурсу мусілі паўплываць таксама рэцэнзіі і «народнае галасаванне».

І водгук Марыйкі Мартысевіч на кнігі Віктара Казько некаторыя ўспрынялі як адмоўны, і нават некарэктны. А ў адкрытым лісце польскай перакладчыцы (і сябры журы) Малгажаты Бухалік на адрас ПЭН-Цэнтра і ў СМІ было заяўлена: «Прашу зняць з афіцыйнага сайта прэміі Гедройца рэцэнзію Мары Мартысевіч на кнігу Віктара Казько «Час збіраць косці». Відавочна, аўтарка ліста палічыла рэцэнзію крытыка адмоўнай. Сапраўды, дэкларараўшы, што «на лінейным узроўні аповесці — як і любы іншы твор Казько — проста выдатна напісаныя. Казько — непераўзыдзены стыліст», Мартысевіч адзначыла ў прадстаўленых творах водгук «свядомасці, траўмаванай распадам СССР».

Дарэчы, на прэс-канферэнцыі з нагоды ўручэння прэміі, пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка, адзначыў, што хада падзей падказвае арганізатарам паспрабаваць на наступны год заказваць на кожны твор па дзве рэцэнзіі — умоўна «негатыўную» і «пазітыўную».

# РЫМ. Скрыжаванне сусветаў

Алесь КІРКЕВІЧ

**Сустрэча з Вечным горадам пачынаецца з украінскай базілікі за пару соцень метраў ад калізея.**

Па сканчэнні літургіі трэба спяшацца, каб паспець на плошчу св. Пятра, дзе кожную нядзелю а 12-й прамаўляе папа. Дзе па вуліцы, а дзе на метро патрапляем у цэнтр.

У Рыме, дарэчы, хіба як нідзе ў Італіі, кідаецца ў вочы поўная адсутнасць дарожных правілаў. Прычым разумеюць гэта як кіроўцы, так і пешаходы: хто паспеў, той і правы. Калі прыглядзецца, то большасць прыпаркаваных машынаў падрапаныя, ніхто гэтым не пераймаецца. Пасля сутыкнення ўдзельнікі ДТЗ тут хутчэй пойдуць разам піць каву, чым выклічуць паліцыю.

Метро бруднае, асабліва пасля стэрыльнага Мінску альбо Варшавы. Веткі ўсяго дзве, але каб дабрацца да станцыі часам прыходзіцца пакружляць сапраўднымі лабірынтамі — з-за археалогіі ды падземных водаў у цэнтры. Пазнаёміцца ў метро прасцей простага: калі бачыш светлую дзяўчыну з нязграбнай ангельскай — украінка. А вось «сапраўдны» з выгляду італьянец, які прыслухоўваецца да тваёй гутаркі проста можа апынуцца... грузінам.

Подбегам крочым да пляцу св. Пятра — паспелі. Такіх, як мы, тут ужо тысяч пятнаццаць як мінімум: поўны інтэрнацыянал. Папа прамаўляе з вакна сваёй бібліятэкі, а карцінка транслюецца на вялікі экран базілікі. Кароткае пасланне заканчваецца воплескамі, праз 20 хвілін пляц вольны, а людзі зноўку спяшаюцца па сваіх справах... Такая логіка жыцця «Вечнага горада».

У саму базіліку давядзецца трапіць толькі на наступны дзень, у панядзелак: бо ў нядзелю чарга, завёрнутая паўкругам па форме каланады, застаецца стаяць і пасля казання. Каб трапіць у сабор св. Пятра, найлепш прыходзіць зранку, інакш можна згубіць паўдня на стаянне. Прыйдзіце раней, гадзін у дзевяць, не пашкадуеце.

У саборы можна сабе ўявіць, як трымцеў перад веліччу Касцёла чалавек, які трапляў сюды 300–400 гадоў таму, не бачыўшы папярэдне будынкаў вышэй за тры паверхі. Тут можна адчуць сябе вечным вучнем: адкуль і з чым бы ты не прыйшоў, галава ўсё адно будзе закінутая дагары, а думкі перабывацьмуць высока ў нябёсах.

Каб дабрацца да труны св. Язафата Кунцэвіча, прыйдзецца тлумачыць ахоўніку па-італьянску, што ты вернік і хочаш паспавядацца. Іншага шляху няма, турыстаў у гэтую частку не пускаюць. Наогул, сабор св. Пятра — гэта цэлы сусвет, дзе можна хадзіць днямі: унутраныя памяшканні і капліцы, падзямеллі, купал...







Ад сабору ў бок Тыбру ідзе праспект з калонамі з ліхтарамі ўздоўж. Яго стварыў Мусаліні, літаральна «рассунуўшы» старажытныя будынкі па баках: іх перанеслі на адмысловых платформах. Гэта не адзіная архітэктурная спадчына, якую пакінуў па сабе дыктатар — рымляне ставяцца да яго густаў па-рознаму, але пры гэтым анічога не прыбіраюць.

У гэтым, імаверна, і ёсць таямніца «Вечнага горада»: тут нічога не знікае, а накладаецца адно на адно нібы каржы слаёнага пірага. Паганскія храмы, як пантэон, сталі хрысціянскімі святынямі, калона Траяна з унікальнымі барэльефамі ператварылася ў помнік царкве з усталяваным на гары крыжам, вечны агонь на Алтары Айчыны, скончаным за часамі Мусаліні, ніколі не згасаў, а побач і зараз дзяжурыць ганаровая варта. Падыход «... до основанья, а затем...» — гэта дакладна не пра Італію.

У падземным пераходзе часам толькі і бачыш, што белыя зубы ды жаўтаватыя бялкі вачэй — чарнаскурыя прадаўцы чакаюць на кліентаў з сумкамі, хусткамі, драўлянымі падносамі альбо кійкамі для тэлефонаў, якімі турысты пасля робяць сабе сэлфі.

Рым заўжды быў перапоўнены стракатай публікай з усяго свету: германцамі, галамі, дакамі, карфагенцамі... таму і «панаехалі» асабліва не скажаш — ужо дзве тысячы год як «панаехалі». Але на фоне зніжэння прыросту мясцовага насельніцтва гэта, канешне, адчуваецца: у пэўных раёнах італійцы ўжо не рызыкуюць хадзіць уначы, а дробныя круглясуткавыя крамы за пару сот метраў ад цэнтру — гэта абавязкова вотчына пакістанцаў альбо кітайцаў.

Рым супярэчлівы і адначасна чароўны: з гадалкамі на пaўпустых начных вуліцах, вулічнымі мастакамі з Філіпінаў і бязногімі румынамі, якія гадамі просяць тут падаянне на прыступках старажытнарымскіх храмаў, даўгалыгімі нямецкімі турыстамі з пустымі вачыма і самалійцамі-прадаўцамі парасоляў, якія могуць ведаць па-італьянску толькі «л'амбрэла...». Горад, па якім не варта сумаваць. Варта вярнуцца.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 754

Падпісана да друку 5.06.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.